# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991 №16 (137) 26 ЛІПЕНЯ 1999г.


зь Беларусі
за суботу й нядзелю

## Наезд у Віцебску

Легендарны цар Мідас мог ператварыць у золата ўсё, да чаго дакранаўся... Падобна, у нас масавыя сьвяты найлепей ператвараюцца ў кроў. Не забылася яшчэ «Няміга», а ўчора ў Віцебску, а 2 гадзіне ночы, па сканчэньні апошняга «базарнага» канцэрту адбылася чарговая трагедыя. Акурат закончыўся міжнародны конкурс маладых зорак, якім закрываўся фэстываль. Калі публіка рушыла па хатах, на скрыжаваньні вуліцаў Леніна і Замкавай, каля гэтак званага «сініга дому» ў натоўп урэзалася машына. У выніку пацярпела 12 чалавек. Як паведамляе Віцебскае УУС, шпіталізавана 9 чалавек, зь якіх двое непаўналетніх. Ізноў большасьць пацярпелых — дзяўчаты. Машына разьбілася аб слуп і не падлягае рамонту, затое кіроўца, зусім п'яны, цудам застаўся жывы і быў затрыманы на месцы. Ён скраў гэты аўтамабіль і, уцякаючы, ня справіўся з кіраваньнем. Сьведкі кажуць, што аўтамабіль меў дыпляматычныя нумары.

Чаму гэтак здарылася, калі на «базар» у Віцебск прыцягнута рэкордная колькасьць міліцыі? Бадай, адказу мы ня знойдзем гэтаксама, як і ў выпадку на Нямізе.

спэц. кар. Міхась Доўгін, Віцебск

## Пранцы

Летась у Беларусі на пранцы захварэла амаль 17 тысяч чалавек (гэта, прыкладам, як усе жыхары Стоўпцаў да адна-го), што складае 164 чалавекі на 100 тысяч насельніцтва. У Заходняй Эўропе гэтая лічба складае 2, ва Ўсходняй — 6 чалавек, у балтыйскіх краінах — 110, а ў Расеі — 277. Сярод хворых — 20% рабочых, 12% службоўцаў, 6% калгасьнікаў, 1,5% студэнтаў, а 45% тых, што нідзе не працуюць. Вядома, ім ё калі лячыцца.

## Замяталін у Іраку

Віцэ-прэм'ер Замяталін адправіцца ў Ірак аж з 10-дзённым візытам з 21-га да 30-га ліпеня. Там ён сустрэнецца ці не з усімі міністрамі. Міністэрства замежных справаў Беларусі падкрэсьліла, што Беларусь хоча шырэй гандляваць з Іракам, не парушаючы, аднак, рэжыму міжнародных санкцыяў.

## Ад рэдакцыі

У мінулым нумары «НН» была зьмешчаная інфармацыя пра арышт камандуючага ВПС Беларусі С.Булыгіна і дырэктара ЗАТ «ТэхАвіяСэрвіс» В.Жыгачова. Спадар Жыгачоў затэлефанаваў у рэдакцыю і паведаміў, што інфармацыя пра ягоны арышт не адпавядае сапраўднасьці і што, на ягоную думку, яна замоўленая ягонымі канкурэнтамі ў бізнэсе. Мы выбачаемся перад спадаром Жыгачовым за прыкрую памылку і паведамляем, што ні ў якім разе ня мелі на мэце замаху на яго дзелавую рэпутацыю. Што да канкурэнтаў, дык «Наша Ніва» не друкуе замоўленай інфармацыі і не залежыць ні ад дзяржаўных, ні ад камэрцыйных структураў. У згаданым паведамленьні пра рэпрэсіі мы, хутчэй, схільныя былі ўгледжваць палітычны аспэкт.

## Віктар Івашкевіч

### адказвае на пытаньні карэспандэнта «НН» напярэдадні зьезду БНФ



**— Прафэсар Шарэцкі й прафэсар Багданкевіч пакінулі Беларусь. Выглядае, што выезд апазыцыйных беларускіх палітыкаў за мяжу становіцца ледзьве ня правілам. Гэтак дойдзе і да стварэньня якогась новага эміграцыйнага ураду...**

**Віктар Івашкевіч:** Ня бачу рэальнай патрэбы ў стварэньні такога ўраду. Ёсьць нармальныя магчымасьці — прынамсі, на сёньня — для змаганьня за дэмакратыю ў самой Беларусі. Пэрсанальна Шарэцкі, Багданкевіч, можа й Пазьняк маглі быць у нейкай небясьпецы — я гэтага ня ведаю. Іх выезд — іх асабістая справа. Але як палітыкі яны шмат страчваюць ад свайго ад'езду. У сёньняшніх беларускіх умовах палітыка — занятак рызыкоўнае. Чалавек павінен сьвядома ісьці на рызыку. Калі ён баіцца ісьці на рызыку, хай мяняе прафэсію. Хто хоча быць палітыкам, застаецца тут.

**— Вы гатовыя ісьці на рызыку?**

— Я ж не ад'яжджаю.

**— Хутка зьезд БНФ. Якім Вы бачыце сабе новы Фронт і кім Вы бачыце сябе ў ім?**

— Я бачу неабходнасьць зьмены кіраўніцтва і пераходу да маладзейшага і больш дынамічнага пакаленьня — Вячорка, Бяляцкі, я сам.

**— Якія пэрспэктывы яднаньня праэўрапейскіх сілаў у Беларусі?**

— На сёньняшні дзень няма праэўрапейскіх сілаў, ёсьць праэўрапейскія групы, якім трэба доўга ісьці да таго, каб стаць «сіламі». Ім трэба правесьці работу, каб стаць сіламі.

**— І што гэта можа быць за работа?**

— Прэса, структуры, кадры, грошы, плянамерная партработа, праца з грамадзкімі арганізацыямі. Пашырэньне інфармацыйнага поля шляхам уплыву на існуючыя сродкі масавай інфармацыі ды стварэньня новых — метады вядомыя.

**— Чаму ніводзін палітык у Беларусі ня езьдзіць зь вёскі ў вёску і з прахадной да прахадной ва ўмовах, калі фактычна ня мае доступу да сродкаў масавай інфармацыі?**

— Чаму няма доступу да сродкаў? Хто хоча, той стварае газэты — прыклад нашай газэты «Рабочий», якая існуе ўжо два гады й распаўсюджваецца накладам 100 тысяч. Ёсьць «Навіны», «Народная воля»...

Працяг чытайце на старонцы 3.



# БЕГ

*Сёньня ў Вільні Сямён Шарэцкі афіцыйна аб'явіць пра свой палітычны статус увогуле і пра статус свайго знаходжаньня ў Літве, у прыватнасьці. Пасьля 20 ліпеня, калі скончыліся пяць гадоў, на якія беларускі народ абраў першага прэзыдэнта РБ, абавязкі кіраўніка дзяржавы перайшлі да старшыні Вярхоўнага Савету. З гэтага моманту А.Лукашэнка стаў неканстытуцыйным правіцелем краіны. Пад пагрозаю магчымых рэпрэсіяў 22 ліпеня Сямён Шарэцкі перасёк дзяржаўную беларуска-літоўскую мяжу. Мяркуецца, што ён пачне выконваць функцыі прэзыдэнта Беларусі і кіраваць апазыцыйным рухам у краіне зь Вільні.*

Фота IREX-Promedia

НА ЗДЫМКУ: *Сьпікер беларускага парлямэнту Сямён Шарэцкі ўцякае з ахоўнікамі да машыны 21 ліпеня пасьля паседжаньня Вярхоўнага Савету. 22 ліпеня ён скіруецца ў бок літоўскай мяжы.*

# Тры варыянты дваеўладзьдзя

*Тайны плян апазыцыі, заяўлены на 21 ліпеня, так і застаўся нерассакрэчаны. Народ, які прыйшоў на гуляньні, гуляў у чаканьні рэвалюцыі паміж плошчай Кастрычніцкай і «партшколай». Абяцаныя цьмы рабочых стройнымі калёнамі не прыйшлі. Шэсьць тысяч міліцыянтаў нудзіліся без каманды на штурм — хоць апазыцыі, хоць прэзыдэнтуры. Стала зразумела, навошта ізалявалі генэрала Захаранку. Зараз не было каму зь міліцыяй і паразмаўляць. Апазыцыянэры не давалі адзін аднаму мэгафон. Ганчар выглядаў палітыкам-адзіночкам. Сямён Шарэцкі, аб'яўлены кіраўніком законнай улады, зьехаў у Вільню. Большасьць людзей так і не зразумелі, што мелася быць. Найболей пацярпелі, як заўсёды, тыя, што нарываліся, і журналісты.*

У зацікаўленай публікі ў галовах — мітусьня і спробы сфакусаваць хоць які аптымістычны спадзеў на блізкім зьезьдзе БНФ 31 ліпеня. Але там абяцаюць ня сход пракаў, а горы франтаўскай бруднай бялізны, ад чаго дыхаць ня стане лягчэй. Добра хоць, калі адпалошчуць. Пазьняк не прыедзе, — паўтараем мы чарговы раз, нібы тыя лікбезаўцы: «Рабы ня мы». Пазьняк ня хоча больш узначальваць БНФ, — паведамляюць з Варшавы. Пазьняк шукае магчымасьці пераезду ў Вільню, — паведамляюць зь Літвы.

Пра тое, што ён зьбіраецца ў старую беларускую сталіцу, «Наша Ніва» ўжо пісала. Але цяпер лідэра апазыцыі апярэдзіў лідэр законнай улады. І ня толькі ён. Ужо нейкі час разам зь сям'ёй жыве ў Вільні Станіслаў Багданкевіч, які час ад часу каротка наведвае Менск. Бачылі тут і шматшмат каго яшчэ. Напрыклад, Яўгена Будзінаса, які з паўгода таму наглядаў сабе ў Вільні маёмасьць... Што ні кажы, дзяржаўныя ўсё людзі.

Вільня — прадмет настальгічнага ўздыханьня кожнага сьвядомага беларуса. Сталіца Вялікага Княства, на спадчыну якога зь ня меншым за літоўцаў правам прэтэндуюць і беларусы. Горад, дзе друкаваў Скарына, змагаўся Каліноўскі, дзе выходзіла «Наша Ніва»... Можа тут нашым палітыкам удасца стварыць сытуацыю дваеўладзьдзя, чаго не ўдалося за Лукашэнкам у Менску. Можа, у гэтым заключаецца таемны плян?

А можа... Яшчэ адзін эміграцыйны ўрад? Тады дваеўладзьдзе — з Івонкай Сурвілай? Яшчэ адзін магчымы сакрэтны праект. Але тут без духоўнага лідэрства не перамагчы. А дзе яго ўзяць?..

Хутчэй, калі ўлягуцца страсьці і скончыцца чыйсьці фінансавы інтарэс, асядуць яны — хто ў бізнэсе, хто ў віленскіх беларускіх суполках, а хто і проста так — прынамсі без пачуцьця эмігрантаў і нацменаў, калі захочуць. Бо Вільня — 180 км ад Менску і ўсяго трыццаць — ад мяжы РБ. Дзень пешага ходу. Усё бліжэй, калі раптам загляне сонца і ў наша ваконца. Дакладней, калі хтосьці ўрэшце запаліць яго.

Сяргей Паўлоўскі

*Тэма нумару: Саюз Пісьменьнікаў — каб ня ўмёрлі*

# Уладзімер Някляеў: «Я ВЕЛЬМІ ЛЮБЛЮ МЕНСК»

***Старшыня Саюзу Пісьменьнікаў Уладзімер Някляеў ня мае намеру вяртацца ў Беларусь. Пра гэта сьведчаць факты мінулага тыдня — ягоная публічная заява пра нелегітымнасьць А.Лукашэнкі, ягоны верш у «Белорусской деловой газете», ягонае інтэрвію польскай «Gazecie Wyborczej». Паэт пацьвердзіў, што ў Беларусі пануе дыктатура, што беларуская культура апынулася ў катастрафічнай сытуацыі і што ён мае намер арганізаваць у Польшчы беларускі культурны цэнтар з выдавецтвам і часопісам — «каб вакол яго згуртаваць беларусаў з розных старон сьвету».***

***Сёньняшняя гутарка нашага спэцыяльнага карэспандэнта Вольгі Караткевіч з паэтам Уладзімерам Някляевым прысьвечаная большай часткай літаратуры і самапачуваньню паэта ў той сытуацыі, у якой ён апынуўся.***

— Навошта паэту, старшыні Саюзу беларускіх пісьменьнікаў спатрэбілася палітычная заява аб нелегітымнасьці Лукашэнкі?

— Я — паэт. Таму пазбаўлены палітычнай лёгікі. Аднак усе апошнія падзеі ў маім жыцьці прымушаюць кіравацца палітычнай лёгікай. Я б хацеў быць далёка ад палітыкі. Аднак, як паслухмяны грамадзянін, павінен кіравацца законамі. Пасьля 20-га ліпеня Лукашэнка — нелегітымны. Я заявіў пра гэта ў Польшчы, таму што тут улады недаацэньваюць тое, што адбываецца на Ўсходзе.

Працяг інтэрвію чытайце на старонцы 7

# МАЦІ ЗАСТАЮЦЦА ТУТ

Натальля БАБІНА

*«Сямён Шарэцкі зьехаў зь Менску з апасеньня за сваю бясьпеку».*
***З навінаў TV Polonia***

Мне падабаецца хадзіць на Камароўку — тут усіх жанчын называюць «хазяйка», а мужчын — «капітан». Тут, каштуючы, можна наесьціся абрыкосамі ды ікрой. Тут віруе жыцьцё, а грошай абарачаецца столькі, што розум ня йме. Тут пануе нязмушаная беларускасьць, а дзе-калі праяўляецца беларуская сьвядомасьць: сваю траску ды кальмараў я заўжды купляю ў таго хлопца з рыбнага раду, які весела крычыць: «Падыходзім, гаспадыні, сьвежая рыба, смачна і танна!» З украінцамі, што прывозяць салодкія, бы цукрам кормленыя, памідоры, я тачу лясы на роднай мове, а ад рыбакоў з Нарачы даведваюся пра асаблівасьці кулінарнага ўжываньня яршоў.

Сюды прыходзяць тыя ж, хто прыходзіць у «Прэстан-маркет», а таксама тыя, хто туды не прыходзіць.

Сюды трэба прыходзіць, каб пабачыць вобраз Беларусі-маці. Яна стаіць ля ўваходу ў крыты рынак, сагнёная ўдвое, амаль глухая, з выцьвілымі вачыма і бруднымі, разьбітымі дзесяцігодзьдзямі працы рукамі. Перад ёй ляжаць тры крывыя морквіны. Яна іх прадае. У праходзе да Прывозу яна стаіць з пучком пятрушкі, рукі ў яе дрыжаць, а вочы... Немагчыма гаварыць пра іх. Або яна сядзіць проста на асфальце, у хустачцы, у вязаным швэдры, і нічога не прадае, нічога й ня просіць — проста трымае ў выцягнутых руках трохі дробных грошай, і дзе-хто нахіляецца, дае ёй яшчэ...

Вось яна, маці-Беларусь. Так выглядаюць нашыя маці ці бабулі — усе. Так выглядаюць маці зацятых алканаўтаў, інжынэраў, дырэктараў. Так выглядаюць маці самых багатых людзей краіны. Так выглядае маці, скажам, Лукашэнкі — да апошняга ў хлеўчуку парасяты, на падвор'і куры, да апошняга раструсае гной, поле буракі, капае бульбу. Да апошняга. Трымцяць рукі, ня бачаць вочы, смокча нешта ў грудзях — яны дапамагаюць дзецям. Нам.

У кожнага ёсьць свой шкілет у шафе — гаворыць англельцы. У кожнага з нас ёсьць свая маці.

Як быццам зьменяць нешта недарэчныя народныя гуляньні, як быццам зьменяць нешта мітынгі па нядзелях... Крымінальнікі ва ўладзе смокчуць нашыя грошы, наш час праходзіць, яго застаецца ўсё менш, і менш і менш верагоднасьці, што маці калі-небудзь адмыюць рукі ад гною і зямлі, здымуць гумовыя чобаты.

Сямён Шарэцкі зьехаў да Літвы, ягоная маці засталася тут. Маці Зянона Пазьняка тут. Дзяцей можна забраць з сабой, жонку-мужа можна забраць, а маці застаюцца. Перад закрыцьцём Камароўкі яны, маці, ходзяць па мясных радах, і гандляры, хто дабрэйшы, аддаюць ім чарвівыя кавалкі... ■

# СЬВЯТОЕ МЕСЦА НЕ ПУСТУЕ

***22 ліпеня ў Вільню прыбыў Старшыня Вярхоўнага Савету РБ 13-га скліканьня Сямён Шарэцкі, які пасьля 20-га ліпеня выконвае абавязкі кіраўніка краіны.***

Прыезд абумоўлены надзвычайнымі абставінамі. С.Шарэцкі й ягонае атачэньне перакана5ныя, што ў Беларусі ёсьць рэальная пагроза жыцьцю гэтага палітыка. Першапачаткова сп. Шарэцкі меў іншыя пляны, аднак выбар ён зрабіў на карысьць Вільні, дзе пад ягоны прыезд тэрмінова была падрыхтаваная часовая рэзыдэнцыя. Гэты клопат узялі на сябе прыватныя асобы, не зьвязаныя ані зь літоўскімі ўрадоўцамі, ані зь мясцовымі беларускімі арганізацыямі. Для апошніх раптоўнае вяртаньне Шарэцкага было поўнай нечаканасьцю, бо ён гасьцяваў тут літаральна дзесяць дзён таму і гаворкі пра вяртаньне ня вёў.

Сёньня, у панядзелак, С.Шарэцкі афіцыйна абвесьціць пра сваю прысутнасьць у Вільні ды вызначыць характар свайго знаходжаньня. На гэты ж тыдзень прызначаныя спатканьні сп. Шарэцкага зь літоўскімі палітыкамі.

Сямён Шарэцкі катэгарычна адмаўляецца ад варыянту палітычнага прытулку. Пакольні Літва далучылася да спэцыяльнае рэзалюцыі Эўрапарляманту й заявы АБСЭ па сытуацыі ў Беларусі, ён можа знаходзіцца тут і як афіцыйная асоба, якая цяпер выконвае ролю кіраўніка Беларускай дзяржавы. Адпаведна, калі літоўскія кіраўнікі будуць пасьлядоўнымі, яны мусяць наладзіць сьпікеру беларускага парляманту прыём, адпаведны ягонаму статусу.

Між тым, Літва апынулася ў нялёгкай сытуацыі. Да надаўняга часу і прэзыдэнт, і ўрад прыкладалі нямала намаганьняў, каб палепшыць адносіны з афіцыйным Менскам, адчувалася, што сьпяшаюцца да 20-га падпісаць з суседняй краінай дакумэнты, якіх патрабуюць ад іх на Захадзе. Таму тут яшчэ не зацьмілі шум пасьля візыту прэм'ера Лінга, які адчыняў новы будынак пасольства і выставу «Беларусь-ЭКСПА», праводзіў перамовы...

Прыезд Шарэцкага недарэчным для літоўскага боку чынам супадае і зь візытам на гэтым тыдні сп. Кларка, які камандуе войскамі НАТО ў Эўропе. Наўрад ці дзеля захаваньня добрае міны ў бок Лукашэнкі літоўцы ахвяруюць пэрспэктывамі палітычнага й вайсковага збліжэньня з Захадам, чыя пазыцыя па Беларусі недвухсэнсоўная. Выглядае, што беларуская апазыцыя правакуе Літву на далейшае разыходжаньне зь цяперашнім рэжымам у Беларусі. Лішне казаць, што для самога Шарэцкага ўсё складаецца найлепшым чынам.

Вільня зноў становіцца палітычным цэнтрам беларускае апазыцыі. Месца сьвятое... Цяпер і не пустое.

С. Х.

## пошта з інтэрнэту

***«Гэтым разам мы публікуем некалькі водгукаў чытачоў на матэрыялы «НН», якія прыйшлі на адрас электроннай вэрсіі газэты ў інтэрнэце.***

***

*Спадарства, не чакала ад вас такога ляпу. Артыкул пра піва: і пытаньне — недалёкае і адказ — адпаведны. Ну што такое «заходнія гатункі» піва? Якія гэта гатункі — нямецкія, польскія, ірляндзкія ці мясцовых бровараў з-пад Вашынгтону??? Ну колькі можна карыстацца гэтай саўковай тэрміналёгіяй?!!! У Японіі таксама піва ёсьць...*

*Вадзіму Карцаву: добра валодаеце слэнгам, але наагул не валодаеце тэмай. Сярод тых, каго Вы называеце «легкадумнымі палітыкамі», ёсьць вельмі разумныя людзі. Вы б лепш вывучылі і прапанавалі чытачам іхныя аргумэнты разам са сваімі, а чытач бы сам разьбіраўся. Дарэчы, навукова даказана, што ўжываньне марыхуаны не выпрацоўвае залежнасьці і не вядзе да ўжываньня больш моцных наркотыкаў. А што тычна дэградацыі, дык пагалядзіце на тую ж Галяндыю. Дзе яны са сваёй марыхуанай, і дзе Беларусь — з напоем «Загадка» і гарэлкай...*

**Іра Курапаткіна**

***

*Назіраецца відавочны рэгрэс вашай газэты. Гэты нумар асабліва пусты. Асабліва літаратурная частка. Графаман Шніп, графаман Адамовіч, графаман Глёбус. Апошні дапісаўся да бязглуздых выпадаў у бок Алексіевіч. Ён лічыць, што апісваць голеныя секелі — гэта добра, а браць інтэрвію ў людзей — гэта кепска. Ну-ну. Гэта нешта накшталт таго, як садамлянін Тарлецкі называе беларусаў неадукаванымі (ці нешта такое) з-за таго, што ім не падабаюцца яго вычварэньні. Хай прыгадае лепей лёс Садому і Гаморы.*

**Стась Манукян**

***

*Паважаны спадар Паўлоўскі. Мяне вельмі зьдзівіла, што сталы аўтар «НН» можа напісаць такую лухту, як: «Беларусь у складзе ВКЛ». Поўны назоў: Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, дзе Літва (Беларусь) стаіць на першым месцы. Цяпер пагалядзіце на мапу і растлумачце чытачу, якім чынам Масковія магла «ўвесь час ваяваць з Польшчай», ня маючы зь ёй агульнай мяжы. Другая справа, што Масковія ўвесь час ваявала зь Літвою, а таксама і з Польшчай, якую Літва была вымушаная клікаць на дапамогу. Прашу прабачэньня за сарказм, але вы друкуеце гэта ў «Нашай Ніве».*

**Зьміцер Левіт**

***

*Нешта вы Пазьняка ня любіця. Зра. Харошы чалавек.*

**Чытач**

***

*Вольга Караткевіч, чаму «па-магілёўскІ», а не «па-магілёўскУ»?*

**Павал Ржэвускі**

***

*Ці плянуе «Наша Ніва» надрукаваць урыўкі зь «Дзядоў» Адама Міцкевіча? Даўно марыў пачытаць!*

**Вітаўт Корч**

***

*Ваша газэта добрая, але, мне здаецца, надта многа культуры. Больш інфармацыі трэба, каб газэта была цікавейшай.*

**Крыжак**

***

*Сп. Паўлоўскі, з атрыбуцыяй новых словаў — акуратней, калі ласка. Слова ЛУКАШЫЗМ ужывалася раней, чым Шарэцкі пасварыўся з Лукашом. Сп-ня Роўда, дзе і калі вы чулі, каб англамоўнікі мовілі «shorTSi»? Расейская фанэтыка беларускім правапісам — вынік за 10 000 міляў ад арыгіналу. Шаноўныя Нашаніўшчыкі, беларуская брудная бялізна — найсьмярдзючая ў сьвеце, нашто яе цягнуць у газэту?*

**А.Парань**





## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ ЧЫТАЧОЎ У МЕНСКУ

Каб чытаць сьвежы нумар «НН» у дзень выхаду – у панядзелак і пры гэтым эканоміць час і грошы, аформіце падпіску ў бліжэйшым шапіку «Белсаюздруку».

Зь ліпеня 1999 г. падпіску «да запатрабаваньня» прымае 31 газэтны шапік. Менскі «Белсаюздрук» гарантуе выдачу газэты па падпісным абанэмэнце ў дзень выхаду газэты, а таксама захаваньне не забраных вамі асобнікаў праз увесь падпісны пэрыяд.

Кошт падпіскі на «НН» на месяц (зь ліпеня) – 175 000 руб. (4 нумары ў месяц, газэта будзе выходзіць на 12 старонках). Падпіска «да запатрабаваньня» прымаецца да 23 дня перадпадпіснога месяца ў крамах і шапіках «Белсаюздруку» г. Менску. Даведацца і высьветліць няясныя пытаньні можна па тэл. 227-88-41 у спадарыні Натальлі Сьвятохі.

**Падпіска па краіне на II паўгодзьдзе 1999 году.**
**Кошт на 1 месяц – 192 000 рублёў, на 3 месяцы – 576 000 рублёў,**

**НАША НІВА**

**Ніжэй мы падаем сьпіс пунктаў, дзе можна падпісацца й забіраць газэту:**

1. Кастрычніцкі пункт падпіскі, вул. Жукоўскага, 5, к. 1
2. Партызанскі пункт падпіскі, вул. А.Кашавога, 8
3. Першамайскі пункт падпіскі, пр. Ф.Скарыны, 113
4. Фрунзенскі пункт падпіскі, вул. Раманаўская Слабада, 9

| | |
|---|---|
| 5. Крама № 1 | вул. Жукоўскага, 5 |
| 6. Крама № 2 | пр. Ф.Скарыны, 44 |
| 7. Крама № 3 | пр. Ф.Скарыны, 76 |
| 8. Крама № 4 | вул. Леніна, 15 |
| 9. Крама № 6 | вул. Філімонава, 1 |
| 10. Крама № 7 | вул. Якуба Коласа, 69 |
| 11. Крама № 8 | вул. Сурганава, 40 |
| 12. Крама № 9 | пр. Ракасоўскага, 140 |
| 13. Крама № 10 | вул. Асіпенкі, 2 |
| 14. Крама № 11 | пр. Пушкіна, 77 |
| 15. Крама № 12 | вул. Кіжаватава, 80 |
| 16. Крама № 13 | вул. Каліноўскага, 82, к. 2 |
| 17. Крама № 14 | вул. Валадарскага, 22 |
| 18. Крама № 15 | вул. Танкавая, 16 |
| 19. Крама № 16 | вул. В.Харужай, 24 |
| 20. Крама № 17 | вул. Някрасава, 35 |
| 21. Крама № 18 | ст. м. «Плошча Перамогі» |
| 22. Крама № 19 | пр. Машэрава, 51, к. 1 |
| 23. Крама № 20 | вул. Ясеніна, 16 |
| 24. Крама № 21 | станцыя мэтро «Пушкінская» |
| 25. Крама № 23 | вул. Славінскага, 39 |
| 26. Крама № 24 | вул. Жылуновіча, 31 |
| 27. Шапік № 34 | гатэль «Менск», пр. Ф.Скарыны, 11 |
| 28. Шапік № 136 | ст. м. «Плошча Якуба Коласа», выхад да Акадэміі Фізкультуры |
| 29. Шапік № 187 | гатэль «Беларусь», вул. Старажоўская, 15 |
| 30. Шапік № 262 | гатэль «Плянэта», пр. Машэрава, 31 |
| 31. Шапік № 78 | гатэль «Юбілейны», пр. Машэрава, 19 |

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125**

# КАЛЕКТЫЎНЫ КАНКУРЭНТ ПАЗЬНЯКУ

***Віктар Івашкевіч — адзін з ініцыятараў рэформы ў Беларускім Народным Фронце, якую плянуецца правесьці на зьезьдзе БНФ 30 ліпеня. Ён стаяў ля вытокаў Фронту, уваходзіў у кіраўніцтва як куратар рабочага руху, пасьля нейкі час працаваў самастойна, стаў лідэрам Свабоднага прафсаюзу, галоўным рэдактарам газэты «Рабочий», але сувязі з БНФ пры гэтым не парываў. Сёньня В.Івашкевіч адказвае на пытаньні карэспандэнта «НН» — пра згаданую рэформу, пра палітычную працу, пра будучыню Беларусі, пра нядаўнія падзеі, сярод якіх — мітынг 21 ліпеня і выезд вядомых палітыкаў у Літву.***



Працяг са старонкі 1.

**— Але ў іх зусім вузкая аўдыторыя.**

— Хто перашкаджае стварыць газэты для шырокай аўдыторыі? Проста нашы палітыкі любяць па-лукашэнкаўску скардзіцца, што ім «мяшаюць». Трэба проста браць і рабіць. Вось я выдаю газэту «Рабочий» і яшчэ 20 рэгіянальных выданьняў. Што, спадчыну атрымаў, ці што? Усё — у галаве. Як у фільме «Сталкер» — пакой, дзе выконваюцца жаданьні. Насамрэч у нашых палітыкаў няма жаданьня. У іх галава забітая кватэрамі, дачамі, навукай, літаратурай...

**— Навука, літаратура — гэта кепска?**

— Не, рэч у тым, што ўсе нашы палітыкі — палітыкі па сумяшчальніцтве. Яны навукоўцы, бізнэсмэны, літаратары. Яны думаюць у першую чаргу пра сваю першую працу, а не пра палітыку, таму палітыка ў іх і не атрымліваецца.

**— Вы робіце стаўку на рабочы рух. У той жа час некаторыя псыхолягі кажуць, што пралетарыі — самая паразытычная, апатычная і антыўласьніцкая група беларускага насельніцтва. Ці няма тут памылкі?**

— Самая апатычная, саўковая і антыўласьніцкая — наша інтэлігенцыя. «Ну, Віктар, калі твае рабочыя выйдуць на забастоўкі?» — кпліва спытаўся ў мяне адзін знаёмы. Гарантую: раней, чым ягоная навуковая інтэлігенцыя. Мірыцца з такімі мізэрнымі заробкамі, якія сёньня атрымліваюць унівэрсытэцкія работнікі, рабочыя ніколі б не сталі. Затрымліваюць на паўмесяца заробак — тут жа страйк. Кожны тыдзень то тут, то там — страйк.

**— Але гэтыя страйкі нясуць у сабе станоўчы зарад ці гэта проста «дай-дай»?**

— Нясуць. Любое адстойваньне сваіх правоў — станоўчае. Любая ініцыятыва, накіраваная на згуртаваньне людзей, фармуе грамадзянскую супольнасьць. На сёньня рабочыя намнат больш арганізаваныя, чым інтэлігенцыя. Яны саступаюць па самаарганізацыі толькі прадпрымальнікам з рынкаў, якія таксама ўваходзяць у Свабодны прафсаюз.

**— Чаму Вы ня маеце рэальнай сялянскай палітыкі, пры тым, што сяляне застаюцца самай беларускай групай насельніцтва? Вы ня верыце, што сяляне могуць стаць апірышчам нацыянальных сілаў у выпадку, калі нацыянальная сіла будуць лабіраваць іх інтарэсы?**

— Ёсьць сялянства і ёсьць сялянства. Калі да беларускага заходняга сялянства можна падыходзіць з, напрыклад, балтыйскімі меркамі, дык сялянства ўсходняе — гэта не сялянства, а рабы, цалкам здэградаваная сацыяльная катэгорыя. Яно ня мае ніякай пазыцыі, як рабы. Абы не галадалі. Як яны будуць галасаваць, вырашае сёньня старшыня калгасу. У прынцыпе, было б лягічна працаваць са старшынямі калгасаў, тлумачачы ім, што лепей быць бел-чырвона-белым памешчыкам, чым чырвоным памешчыкам. Зараз усё болей ідуць размовы аб капіталізацыі калгасаў, аб ператварэньні іх у закрытыя акцыянэрныя таварыствы і скіданьні зь іх цяжару сацыяльнай дапамогі старым. Каб калгасы перайшлі ва ўласнасьць да старцыняў калгасаў і іхных сем'яў.

**— Гэта быў бы карысны крок?**

— Любая капіталізацыя — гэта крок наперад. Як пісаў Ленін, можа быць амэрыканскі шлях разьвіцьця, можа быць прускі шлях разьвіцьця. У нашай сельскай гаспадарцы, магчыма, трэба ісьці менавіта прускім шляхам разьвіцьця. Можа, Фронту й трэба правесьці спэцыяльную работу са старшынямі.

**— Вы прадстаўляеце інтарэсы работнікаў, але кажаце, што капіталізацыя — гэта добра. Няма тут супярэчнасьці?**

— Прафсаюзы выступаюць за максымальную капіталізацыю. Бо толькі ў рынкавых умовах можна быць прадаўцом рабочай сілы і дабівацца добрай аплаты. На Захадзе ёсьць прадавец рабочай сілы, пакупнік рабочай сілы і дзяржава, якая кантралюе іх дачыненьні. Прафсаюзам выгадна, каб наймальнік і дзяржава былі рознымі суб'ектамі. Тады можна выкарыстоўваць дзяржаву ў змаганьні за свае інтарэсы. Змаганьне за памер зарплаты — рынкавая зьява. Што такое прафсаюзы — гэта людзі аб'ядноўваюцца, каб даражэй прадаць свой тавар, працу.

**— Ва ўлётцы, якая заклікала людзей на Кастрычніцкую плошчу, было 18 памылак. Гэта наўмысна?**

— Трэба пісаць граматна. Але побач з гэтым была й газэта «Народны прэзыдэнт» — я б не паставіў на адзін узровень па цікавасьці з акцыяй Пушкіна. А ёсьць такія нудныя лістоўкі, кшталту «Народ, паўстань за сваю дзяржаўнасьць і мову». Гэты «плач Яраслаўны» пра тое, як нас тут б'юць, ужо набіў аскоміну на фуршэтах канфэрэнцыяў па правах чалавека.

**— «Народны прэзыдэнт» таксама пабудаваны на адмаўленьні. А дзе людзям гарантыя, што ёсьць стваральная праграма, апроч пераліку дзясятку даўно вядомых агульных пунктаў пра капіталізацыю і ўвядзеньне рынкавых адносінаў?**

— Праграма канкрэтных крокаў была дэтальна распрацаваная пад час прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году.

**— Гэта было 5 гадоў таму. З тых часоў, напрыклад, значна вырасла доля экспарту ў Расею.**

— Зараз яна зноў вяртаецца да 50/50. У Расеі ня плацяць, прадпрыемствы самі шукаюць збыту на Захадзе. У кардынальнай ступені нічога не зьмянілася. Нешта там стала горш, але спэцыялісты працуюць, улічваюць. Не праблема — выпрацаваць праграму. Працуюць ценявыя кабінэты, нацыянальны выканкам, куча недзяржаўных арганізацыяў. Праблема ў тым, як атрымаць гэтую ўладу. Фронт часта выслаўляецца тым, што «мы казалі, як трэба»... Людзі кажуць, чаму ж Вы не зрабілі, калі такія разумныя? Зараз трэба выпрацаваць мэханізмы прыходу да ўлады.

**— Калі б Вы сталі кіраўніком дзяржавы, якія былі б Вашы крокі на працягу першага тыдня?**

— Першае, трэба мяняць сымболіку. Гэта будзе сыгнал для інвэстараў і бізнэсоўцаў, што саўковая эпоха скончылася. Другое, неабходна спрасьціць сыстэму падаткаабкладаньня.

**— Вы ня зможаце зьмяніць падаткавую сыстэму за тыдзень.**

— Я не гавару пра першы тыдзень, я гавару пра некаторы час. Павінны быць адпушчаны цэны. Вернуты максымальна спрошчаны мэханізм стварэньня суб'ектаў гаспадараньня. Даць людзям магчымасьць зарабляць. Каб максымальна вялікую частку насельніцтва сьпіхнуць зь дзяржаўнай датацыі. А за адзін дзень нічога не робіцца, нават сымболіку за адзін дзень не памяняеш — дыскусіі ў парлямэнце, галасаваньне зойме больш часу. За тыдзень можна толькі пачаць тыя накірункі працы. У абранага кіраўніка будзе запас даверу, насельніцтва ня канца зьвяргаць яго празь дзень.

**— Зьмены ў Беларусі адбудуцца выбарным шляхам?**

— Тое, што зьмена ўлады ў Беларусі скончыцца дэмакратычнымі выбарамі — гэта жалезна. Бо гэтага будзе патрабаваць Захад.

**— У незалежных расейскамоўных выданьнях часта адчуваецца паталягічная нянавісьць да БНФ. Гэта часовая зьява ці ўнутранае непрыманьне беларускага?**

— Тут ёсьць момант прэвэнтыўнай самаабароны, боязі, што беларускамоўныя прыйдуць да ўлады. Будучы пэрсанальна знаёмым з расейскамоўнымі журналістамі, я ўпэўнены, што гэтыя людзі — заходне арыентаваныя, і для іх галоўнае, каб былі свабода, дэмакратыя і эўрапейскі стыль. Аб'ектыўна яны будуць падтрымліваць Фронт, калі Фронт ня будзе пагражаць ім. Адзін з матываў таго, чаму незалежная прэса апошнім часам стала актыўней крытыкаваць апазыцыйных палітыкаў, — яна лічыць, што прыйшоў час палітыкам несьці адказнасьць за ўзятыя імі абавязацельствы. Як кажуць, узяўся за гуж... Калі Антончык кажа «выведу 15 тысяч» і не выводзіць, дык лепш не кажы. Гэтае распусканьне паўліных хвастоў — вельмі шкодная палітыка, бо яна паралізуе волю значнай часткі людзей, яны чакаюць цудаў ці то ад Шарэцкага, ці то ад кіраўніка страйкавага камітэту, замест таго каб самім працаваць. Таму павінна быць пакараньне за невыкананьне абавязацельстваў.

**— Тое, што Вы кажаце, Ваш канфлікт з Антончыкам, як і канфлікт у Фронце, чалавек збоку ўспрымае як грызьню.**

— У мяне няма канфлікту з Антончыкам. Лічу, што проста павінна быць адказнасьць за свае словы.

**— Чаму 21 ліпеня, як калісьці ў 1996-м, на чале дэманстрантаў не было палітыкаў?**

— А куды ішлі 21 ліпеня? Вось анэкдот, народжаны 21 ліпеня. Стаяць людзі зь пяці да шасьці. Раптам зьяўляецца чутка: усім ісьці да партшколы, бо там засядае Вярхоўны Савет. Людзі ад 50 да 30 год пытаюцца, а дзе тая партшкола? Людзі ад 30 да 20 пытаюцца, а што такое партшкола, якой партыі школа? Ідуць да плошчы Незалежнасьці, назад, блукаюць. Дзе ж тая партшкола? А, гэта ж камуністычная школа! Шарэцкі там выкладаў і вучыўся! Хто заклікаў на гэтую акцыю, хто яе ўзначальваў? Антончык? Ну, у газэтах было — Антончык? Во Вы ў яго спытайце, хто павёў і куды павёў.

**— А дзе былі лідэры БНФ?**

— Там былі, але як шарагоўцы, яны не арганізоўвалі акцыі, бо Фронт, заняты пытаньнямі ўнутранай будовы і аздараўленьня, згубіў ініцыятыву. А сябры Фронту, гэтыя 3 тысячы чалавек, ходзяць на любыя акцыі, хто б да гэтага ні заклікаў.

**— Пазьняк ня хоча вяртацца, Навумчык аддаў перавагу паплатнай працы ў Празе, Заблоцкі, кажуць, абсеў недзе ў Бэльгіі, тут кіраўніцтва БНФ загрузла ў канкурэнцыі міжсобку і баіцца адкрыта ўстаць на чале акцыяў пратэсту. Пасьля гэтага звычайныя словы ўжо ня могуць аднавіць давер да Фронту. Якія справы могуць аднавіць давер?**

— Дзеяньні. Калі пачнуць узначальваць акцыі, тады будзе й давер. Шмат хто спадзяецца, што Фронт возьме на сябе ініцыятыву пасьля абнаўленьня кіраўніцтва. Вялікая частка насельніцтва будзе падтрымліваць Фронт пасьля таго, як ён стане актыўна дзейнічаць як непалітычная, а грамадзкая сіла. Недзяржаўныя арганізацыі, прафсаюзы, экалягічная барацьба. Як пры канцы 80-х, калі галоўнай была не палітыка, а Чарнобыль і гэтак далей.

**— Але тады быў Чарнобыль і Курапаты, а цяпер?**

— І цяпер Чарнобыль успрымаецца завострана. Сацыялягічнае дасьледаваньне па лініі лябараторыі «Новак» паказвае, што 80% насельніцтва незадаволеныя тым, што ў забруджанай зоне вырошчваюцца прадукты. Гэта палітыкі забылі пра гэта. Людзей цікавіць зарплата і здароўе. І тое, што я назваў — Івашкевіч, Вячорка, Бяляцкі — калектыўны канкурэнт Пазьняку. Вячорка ўзначальвае Асамблею няўрадавых арганізацыяў, Івашкевіч — Свабодныя прафсаюзы і выдае газэту, Бяляцкі — праваабарончы цэнтар і мае фонд падтрымкі магчымых рэпрэсаваных, чаго раней ніколі не было. Цяпер у выпадку ўсіх магчымых страйкаў і дэманстрацыяў, калі пасадзяць, звольняць, будзе людзям дапамога.

**— Гаворачы словамі Алеся Гаруна, што для Вас значыць: ісьці з народам «роўным ходам, к роўным зыскам, к роўным стратам»?**

— Плянуючы дасягненьне сваёй мэты, пабудову такой Беларусі, якая была б падобная на сучасную Чэхію, разумець, што гэта магчыма толькі пры падтрымцы большай часткі народа. Ні хітры пераварот, ні заходняя акупацыя, ні яшчэ што не дадуць магчымасьць стварыць тую эўрапейскую Беларусь, калі ня будзе падтрымкі насельніцтва.

Гутарыў Андрэй Дынько

# Алег Кайдаў: «МЫ — АДЗІНОЧКІ»

***На Віцебшчыне крымінальныя справы супраць апазыцыянэраў заводзяць часьцей, чым у іншых рэгіёнах Беларусі. Быў Плешчанка, Мароз, цяпер — трое полацкіх партызанаў, якія зрывалі сьцягі зь дзяржаўных установаў. Менавіта ў крывіцкім краі дзеіць Мірон. Але тамсама — «расейскае казацтва», праводзяцца «Славянскія базары». Мы запрасілі ў рэдакцыю Алега Кайдава, аднаго зь нядаўна засуджаных, і найперш пацікавіліся, якой была грамадзкая рэакцыя на іхны ўчынак.***

Алег Кайдаў: Нехта сьмяецца, думае, што гэта дурасьць. Большасьць, запалоханыя, кажуць: «Вы гэтым не даб'ецеся нічога» — стандартны набор. Ёсьць і тыя, хто прытрымліваецца нашай думкі: хай, можа, і не ў такой, ня надта сур'ёзнай форме, але трэба нешта рабіць, неяк выказвацца. Бо ў Полацку ўсё вельмі замаруджанае, і часам здаецца, што нават надзеі ні на што няма. Наш учынак — гэта, калі хочаце, крок адчаю, каб зрушыць спакой, які пануе. У Полацку мала што адбываецца. У пікетах бярэ ўдзел вельмі мала людзей. Людзі, якія працуюць на карысьць Беларусі на захадзе нашай краіны, адразу бачаць нейкі адказ, вынік. А тое, што робім мы, на поўначы, больш нагадвае дывэрсіі. Гэта акты адзіночак — Мірон, разбурэньне бюсту Суворава, сьцягі. Мы самі сабе праводзім сумную паралель з Грынявіцкім, што забіў у свой час цара. Не стае ў нас людзей для стваральнай грамадзянскай працы. Я сам ні ў адну палітычную партыю не ўваходжу. Жыву ў ваенным гарадку Баравусе пад Полацкам. Там, па-мойму, на 5 тысяч насельніцтва ёсьць толькі трое тых, хто здольны на ўчынак, скажам так, начны ўчынак.

**— Падзьвіг заўжды быў справай адзіночак.**

— Мой ідэал — Каліноўскі. Але іншы раз пачынаеш адчуваць, што ты са сваімі ідэаламі нікому не патрэбны, што натыкаесься на суцэльную сьцяну пагарды.

**— Але гэтая пагарда ці ня ёсьць проста маскай, вынікам выцясненьня пачуцьця сораму за сябе, за сваю баязьлівасьць, расьлінасьць?**

— Асяродзьдзе ўплывае на наша ўспрыманьне рэчаіснасьці. Ваенны гарадок, а ваенныя — найбольш рэакцыйная частка насельніцтва, бо лепш зарабляюць, чым астатняе насельніцтва. Абсалютная большасьць афіцэраў запраграмаваныя, і іх дзеці падзяляюць рэакцыйныя погляды.

**— Лавейкіна не звальняюць з войска?**

— Раней ён быў кантрактнікам, але калі нас злавілі, яго адразу перавялі на тэрміновую, і ён цяпер мусіць даслужыць тэрмін. 27-га верасьня дэмабілізуецца.

**— На судзе Вы не адмаўлялі зрываньне сьцягоў. Гэта нешта незвычайнае.**

— Калі такія ўчынкі робяцца, яны маюць на мэце ня толькі выказваньне сваіх поглядаў, але й дэманстрацыю нечага астатнім. Тым больш, што злавілі нас ужо ня першы раз. Пад час сьледзтва першай рэакцыяй было — адмаўляцца, яно натуральна. Потым мы зразумелі, што ў сьледзтва не было абсалютна ніякіх доказаў нашай вінаватасьці. Тое, што мы прызналі сваю віну — вынік шантажу кагэбістаў. Яны выкарыстоўвалі тое, што я і Блізьняцоў — студэнты. Адзін з супрацоўнікаў КГБ заявіў: «Даю вам чэснае слова, што інфармацыя пра суд ня пойдзе ва ўнівэрсытэт. Хлопцы, калі ўсё прызнаеце, вам нічога ня будзе. 186-ы артыкул несур'ёзны. Гэтая справа на нас вісіць з 98-га, нам трэба яе пазбыцца, таму прызнавайцеся. На першы выпадак — будзе маленькі штраф, і ўсё. Ва ўнівэрсытэце ні пра што не даведаюцца». Вось такім чынам. Купілі, карацей кажучы.

**— А ва ўнівэрсытэце ёсьць нейкая рэакцыя?**

— Даволі нечаканая. Ухваляюць. Ніякіх сур'ёзных санкцыяў супраць нас не было, ні ў мяне на радыётэхнічным, ні ў Блізьнякова на гісторыка-філялягічным.

**— А бацькі што?**

— Бацька ў мяне з Пастаўскага раёну, а матка — з Глыбоцкага. Калі ў Віцебску толькі паўставаў БНФ, бацька быў сярод ягоных арганізатараў. Маці перажывала, бо сьледчы не хаваў ад нас, што на яго ідзе ціск зьверху, каб павярнуць усё больш сур'ёзна для нас.

**— Штрафы ў Вас ёсьць чым сплаціць?**

— Толькі ў аўторак прысуд уступіў у сілу, пакуль яшчэ не плацілі. Маем кантакт зь «Вясной-96», можа, яна трохі дапаможа.

**— Як суд ішоў?**

— Суд быў ваенны. Склалася ўражаньне, што судзьдзя рабіў усё, каб нас судзіць не па менш сур'ёзным артыкуле пра зьнявагу дзяржаўнай сымболікі, які не прадугледжвае пазбаўленьня волі, а па 201-м, «злосным хуліганстве», за якое пагражае да пяці гадоў турмы. Па-мойму, у іх такая практыка: калі злачынства носіць яўна палітычны характар, робіцца ўсё, каб яго прадставіць як звычайнае крымінальнае. Такім чынам дасягаюцца дзьве мэты: па-першае, за хуліганства даецца больш жорсткае пакараньне, па-другое, дыскрэдытуецца сам учынак. Так было і са справай Уладзімера Плешчанкі.

**— Калі б Вам ня штраф далі, а пасадзілі? Думалі пра гэта?**

— Прыйшлося б трымацца.

**Гутарыў Барыс Тумар**

## дзе варта быць

**27-га ліпеня**, перад сьвятkаваньнем Дня Незалежнасьці, аматарам менскай старасьвеччыны варта наведаць **канцэрт Менскага камэрнага хору «Санорус»**, які адбудзецца а 16-й гадзіне ў Нацыянальным музэі гісторыі і культуры Беларусі (К.Маркса, 12). Акцыя прысьвечаная 180-м угодкам з дня нараджэньня Станіслава Манюшкі. У праграме — вакальныя творы самога юбіляра і музыка ягоных сучасьнікаў. Тамсама можна наведаць выставу «Мэлёдыі Бацькаўшчыны», дзе ўзноўлена атмасфэра музычных салёнаў сярэдзіны XIX ст.



Станіслаў Манюшка

**27 ліпеня 1990 — Дзень прыняцьця Дэклярацыі аб незалежнасьці Беларусі**



Іншая музыка прагучыць на наступны дзень, **28-га ліпеня**, пад час канцэрту **«Моладзь за Незалежную Беларусь»**. Лепшыя рок-каманды краіны — **«NRM»**, **«Новае Неба»**, **«Уліс»**, **«Нэйрадзюбэль»**, **«Палац»**, **«Крыві»**, **«Мясцовы час»** ды іншыя сваімі песьнямі давядуць, што на нашай вуліцы зноў сьвята. Пачнецца акцыя а 15-й гадзіне на пляцоўцы перад Менскай Опэрай і будзе цягнуцца да ўпору. Прыходзіць трэба зь беларускімі сьцягамі, беларускім півам і вераю ў тое, што «Мы пераможам».

# АБОРТЫ Й ПАЛІТЫКА

Вадзім КАРЦАЎ



Ці памятаеце стары садысцкі анэкдот: званок у дзьверы, на парозе выродлівы малады чалавек, у дадатак са шматлікімі дэфэктамі мовы:

— Івановіч Натальля Мікалаеўна тут жыве?

— Так.

— Вам у 67-м падпольны аборт рабілі?

— Ну.

— Цельца ва ўнітаз змылі?

— Змыла.

— Мама, я вярнуўся!

Сьмяюцца ўсе. Гэтая показка як тэст, што выяўляе спакойнае стаўленьне нашага грамадзтва да жахлівай па сутнасьці зьявы — штучнага перарываньня цяжарнасьці.

У тых, хто ня супраць, процьма аргумэнтаў: навошта пладзіць жабракоў; яшчэ маладая — няхай пагуляе; чым будзе гадавацца бяз бацькі, дык лепей хай і не народзіцца; ужо тры дачкі — куды далей; да месяцу зародак не чалавек, а згустак крыві і г.д.

Пад дэмагагічнымі матывамі хаваецца сярэднявечнае дзікунства й трывіяльнае чалавеказабойства.

А расейскія «гуманісты» і «рацыяналізатары» ад мэдыцыны, дык тыя наогул дайшлі да таго, што выкарыстоўваюць *абартыўны матэрыял* для вырабу касмэтыкі й лекаў. А што! Каб дабро не прападала. Гэта ж не паштэт, а крэм для твару. І марка адпаведная — «Чорны жэмчуг». Рускі бізнэс...

Між тым, у некаторых народаў датай нараджэньня чалавека лічыцца дзень ягонага зачацьця. І нездарма.

Калі бачыш на экране паводзіны спэрматазоідаў і яйкаклеткі, момант аплодненьня, этапы разьвіцьця эмбрыёну, міжволі думаецца: а ці ня ёсьць полавыя клеткі насамрэч найвышэйшымі істотамі з душою, а чалавечае цела — усяго толькі абалонка, транспартны сродак і функцыянальная абслуга для іх?

Гэта філязофскі падыход. Сучасныя ж мэдыкі кажуць пра тое больш канкрэтна: апладнёная яйкаклетка — гэта ўжо самастойны арганізм, чалавек, асоба, душа.

Таму аборт — на любым этапе цяжарнасьці — гэта жорсткае забойства, што ня можа быць апраўданае аніякімі меркаваньнямі.

Рабаўнік, які зарэзаў сваю ахвяру, каб забраць грошы, роўны маці ў змове зь лекарам, якія парвалі на кавалкі й выкінулі ў сьметніцу дзіця, бо яно непатрэбнае.

Закапаць жыўцом старэнькіх бацькоў, бо ад іх толькі клопаты — учынак аднаго кшталту з абортам.



Парушыць сьвяты цыкль няможна беспакарана. Скалечаныя дзяўчаты сыходзяць з акрываўленых хірургічных сталоў, бы з канвэеру; некаторыя — каб ужо ніколі не нарадзіць і не стварыць поўнай нармалёвай сям'і.

Гэтак нельга! І выйсьце ёсьць.

Трэба проста ўцяміць, з чым змагацца. З абортамі як з хірургічнай апэрацыяй ці з абортамі як з вынікам людзкой цямноты.

Ня трэба забараняць аборты — бессэнсоўна; забароны загоняць гэтую справу ў падпольле, адкуль яна будзе выглядаць жахлівымі калецтвамі нашых жанчынаў.

Уявіце, калі ў рамках праграмы за здароўе зубоў забараніць іхнае выдаленьне. Каб не выдалялі — зубы трэба даглядаць.

**Дзяржава, дабрачынныя фундацыі,** царква мусяць пакладаць прыклад: нічога не пакінуць без увагі: пацікавіцца пра даступнасьць кантрацэптываў. Кошт пачку супрацьзачаткавых пігулак павінен быць суадносным з кішэннымі выдаткамі кожнае студэнткі.

Пра тое, у якія тры тыдні з чатырох можна сьмела даць радасьць свайму мужчыну, не баючыся зацяжараць, і як не «заляцець» у астатнія сем дзён, павінны распавядаць школьныя падручнікі, а не газэты падазронага зьместу.

Шлях адукацыі, а не забаронаў, прывядзе да банкруцтва крываваe індустрыі «чыстак», «вакуумаў» ды іншых штучных перарываньняў жыцьця.

Спыненьне масавых забойстваў, грамадзкая мараль, прапаганда здаровага сямейнага ладу, выхаваньне адказных перад сабою, супрацьлеглым полам ды цэлым соцыюмам асобаў. Чыя гэта, як не палітыкаў, справа? Да працы! ■

*Купалава сьвята ў Вязынку, адправілася чытаць вершы да новага помніка Пушкіну ў Менску, бо там было ўсё высокае кіраўніцтва, а ў прыдачу чакаўся Лужкоў. Лужкоў, што праўда, не прыехаў...*

*Верагодна, выратаваньне сытуацыі ў тым, каб у СП зьявіўся нарэшце пасіянарны кіраўнік. У агульнакультурным сэнсе ўсё, што робяць лукашэнкаўцы — гэта нулявы багаж. Ад гэтага не адымаецца і не дадаецца. А вось суб'ектыўная роля заўсёды лягае значным радком у летапіс часу. І нават такі экстэнсіўны ўчынак, як выезд Уладзімера Някляева за мяжу, робіцца прадметам размоваў, а можа быць і тэмай для чыягосьці верша або апавяданьня, дзе адныя назавуць паэта здраднікам, а другія — прарокам.*

## Уладзімер Някляеў:

# «Я ВЕЛЬМІ ЛЮБЛЮ МЕНСК»

Працяг са старонкі 1.

— Распавядзіце коратка гісторыю Вашага выезду за мяжу...

— Сытуацыя, створаная Заміталіным вакол часопісу «Крыніца», стала невыноснай. Гэта адбівалася і на маёй псыхіцы, і на настроях у рэдакцыі. Відаць, падпісаная мною заява, якая асуджала прынятыя прэзыдэнтамі Беларусі і Расеі 25-га сьнежня дакумэнты, стала прычынай увагі да мяне. Я выехаў зь Беларусі 6-га чэрвеня. Думаю, што так хутка арыштоўваць мяне ніхто б ня стаў, аднак Лукашэнка вырашыў узяць мяне на яшчэ карацейшую шворку.

— Вы адчувалі сябе як на шворцы?

— Так. І ў мяне быў выбар — адысьці ад уладаў ці працягваць рабіць нешта, у тым ліку і для культуры, што без дачыненьняў з уладамі немагчыма.

— Калі «адысьці ад уладаў», чым бы Вы маглі займацца? Які мог быць грамадзкі водгук на такую зьмену Вашых інтарэсаў?

— Мог бы займацца выдавецкім бізнэсам. Атрымліваць грошы за песьні. За вершы надта ж не пражывеш. Што да грамадзкай думкі... А навошта яе кантраляваць?

— Дарэчы, якая і калі напісаная Вамі апошняя песьня?

— Апошняя песьня напісаная пра Менск. За дзень да ад'езду. Разам з Эдуардам Зарыцкім. Для аркестру Міхаіла Фінбэрга. І прымеркаваная да сьвята гораду — 3 ліпеня. Выглядае сымбалічна. Мая першая песьня была напісаная таксама з Эдуардам Зарыцкім. Даўгая вельмі — пра каханьне. Яе сьпявала Тамара Раеўская.

— Вы любіце Менск?

— Вельмі. Асабліва гэты раён — мост праз Сьвіслач паміж цыркам і плошчай Перамогі, зь якога можна глядзець на Опэрны. Гэта якраз увасабленьне таго, пра што гаварыў слынны архітэктар Карбузье: «Архітэктура — гэта не будынак, а арганізаваная будынкамі прастора». Замежнікі заўсёды былі ўражаныя пэйзажам, бачным з гэтага мосту. Я шмат глядзеў на Менск... І адчуваў прастору і настрой. Адтуль і пайшло...

— Паэзія?

— Так. Я ніколі б ня стаў празаікам. Ня ўмею пісаць і апісваць рэаліі — дамы, вуліцы... Патрабую паэзіі.

— А чаго патрабуе праўдзівая паэзія?

— Разьняволенасьці і фантазіі. Там ты зрэалізуеш тое, чаго ня спраўдзіў у жыцьці: не дакахаў — дакахаеш, не дапіў — дап'еш....

— Ці не рабілі Вам закіды ў злоўжываньні алькаголем?

— Я жыў і, відаць, цяпер жыву, атачаны плёткамі. Алькаголь — непазьбежны для творчага чалавека. Чаму? Бо шукаеш выйсьця з побыту. Любы побыт, самы ўладкаваны — гэта сумна. Яго можна памацаць толькі фізычна. Нат калі ты бярэш самую вытанчаную філіжанку, па вялікім рахунку, гэта звычайны прадмет. І без настрою — тое самае, што звычайная шклянка. Алькаголь — гэта слабасьць беларусаў, якія патрабуюць распружанасьці. Каб беларусы былі мацнейшымі, маглі б вырашаць пы-



таньне іншым шляхам — трэніраваць цела, дух. І даваць палёгку мазгам...

— Чаму Вы ня сталі тэарэтыкам паэзіі?

— Сумна тлумачыць людзям тое, што яны павінны выказваць і што адчуваць. Ёсьць такая парода людзей — крытыкі. Сярод іх — таленты. Мне трактаваць сумна. Я ніколі не пісаў дзёньнікаў. Аднаго разу — у школе. Пасьля перачытаў і стала сорамна — для сябе пісаў у апошнюю чаргу. Дбаў пра форму... А ў беларускім кантэксьце я не ўваходзіў у нейкія групоўкі, колы. Сам па сабе. Ня быў набліжаным...

— Ці былі Вы рэальна набліжаным да Лукашэнкі? Простая тэлефонная лінія і г.д...

— Не, ня быў. Калі да мяне прыходзяць і кажуць, што ты з прэзыдэнтам кожны тыдзень мыесься ў лазьні, я мала расказваю, што сапраўды хаджу ў лазьню з прэзыдэнтам. Але прэзыдэнт гэта ня той. У мяне свая кампанія, у якой, дзякуй Богу, няма ніводнага літаратара. Гэта былыя спартоўцы, мужыкі, якія займаюцца справай. Шточацьвер ходзім у лазьню. І абралі прэзыдэнта кампаніі — былога баксёра цяжкой вагі. Займаецца бізнэсам.

— Аляксандар Лукашэнка чытаў Вашыя вершы?

— Усім расказваў, што чытаў. Але ня мне. На сустрэчы з Радай (Саюзу Пісьменьнікаў. — *«НН»*) сказаў, што сучаснай літаратуры, на жаль, ня ведае.

— А каго ён ведае?

— Лукашэнка ведае Мележа, таму што вывучаў яго ў школе. Ён нам расказваў, як некалі паехаў на Палесьсе. Апынуўся на востраве, дзе расло вялікае дрэва, здаецца, дуб. Лукашэнка стаў пад дубам і адчуў, што тут, на гэтай зямлі, Мележ мог напісаць «Людзі на балоце»...

— На Вашую думку, ці важна, каб кіраўнік дзяржавы быў гуманітарна асьвечаны?

— Безумоўна, важна. Гэта ж ня той сьвет, калі панаваць можа проста тыран...

— А хіба гэта ня так?

— Відаць, адмерана нам так. Ён абсалютна падобны да народу. Народ — да яго.

— Вы калісьці гаварылі, што дасягненьнем у сваёй творчасьці лічыце зборнік «Прошча»...

— Я сам зь мястэчка Крэва. Мой бацька, рускі чалавек, прыйшоў туды з Волгі, калі адваяваў. Яго, былога старшыню калгасу, паслалі ў Заходнюю Беларусь ствараць калгасы, раскулачваць майго дзеда, фактычна, разбураць тое, што дзед усё жыцьцё будаваў. Сустрэў маю маці. Я нават пачаў паэмку пісаць пра парадоксы, ад якіх залежыць тваё зьяўленьне. Каб не было тае жудаснае вайны, ці быў бы я, Вы?

Напрыканцы вёскі, мястэчка ёсьць прошча. Абавязкова з капліцай — гэта можа быць студня, камень, валун, векавое дрэва. Сымбаль. Толькі там можа здарыцца нешта неверагоднае ці фантастычнае. Там, дзе Прошча. Аднаго разу на Смаргоншчыне я ўбачыў возера. Маленькае, але глыбокае — я нырцом спрабаваў. Пытаюся ў мясцовага жыхара вёсачкі хат у пяць: «Як называецца?» — «Проста возерам». Так яно стала Прошчай. Так нарадзіўся назоў кнігі.

— У паэзіі жыць прасьцей?

— Менш умоўнасьцяў. У жыцьці нельга адысьці ад умоўнасьцяў. У паэзіі дапушчальная вялікая доза свабоды. А замест гэтага беларускае скарыстоўвалася і скарыстоўваецца дагэтуль як патэнт для магчымасьці існаваць.

— Шамякін? Прачытаўшы ягоныя дзёньнікі ў «Крыніцы», я падумала: «Чалавек пазбаўлены абстрактнага мысьленьня. Бачыць толькі тое, што відаць»...

— Шамякін, дарэчы, няшчасны чалавек. Мог бы стаць вельмі добрым пісьменьнікам. Прырода дала яму талент сюжэтніка. Ёсьць пісьменьнікі, якія ня могуць добра апэраваць фантазіяй. Шамякін з такіх. Але сюжэт будаваў, як мала хто. Умовы сацыюму прымусілі адпрацоўваць клішэ. У ягоных раманах два полюсы. Становчы — сакратар райкаму, адмоўны — старшыня выканкаму. Туды ўплецена каханьне. Старшыня выканкаму адступае... А цяпер Шамякін няшчасны і па жыцьці. Жаліцца, што стаў бедным. Ёсьць людзі, якія ня могуць падумаць, што ўлада можа быць імі абвергнутая.

— Асабліва чалавек, які пісаў пра каханьне?

— Я ведаю выпадкі, калі беларускія паэты спачатку пісалі прысьвячэньні жанчынам, якіх кахалі, а як даходзіла да друку, здымалі гэтыя прысьвячэньні, баючыся жонкі...

— Што Вы ўзгадваеце з уласнага жыцьця? Вучобу, працу на БАМе, перажытыя пачуцьці?

— БАМ. Падабалася, таму пісаў пра гэта. У нас адзін аднаго амаль не чытаюць, а ацэньваюць са словаў іншых. Крытыкавалі мяне за апяваньне БАМу, а я надта не апяваў. Упэўнены, што «Паэму пра БАМ» прачытаў адзін са ста крытыкаў. БАМ — падабалася. Пакуль БАМ ня стаў пляцоўкай для махінацыяў — сталі красьці, японцы прывозілі самалётамі шмоткі...

— Рамантычныя 60-я. Вашая маладосьць засьпела моду на джынсы?

— Не. Штаны-дудачкі, кашуля ў пеўні і шырокі гальштук. Дудачкі разразалі і вешалі на разрэз ад нізу да калена значкі. Мяне ледзьве з тэхнікуму ня выгналі за гэта.

— Зь якога тэхнікуму?

— Сувязі. У Менску. За тое, што я студэнту з Цэнтральнай Афрыкі тры зубы выбіў.

— ???

— Не, не за дзяўчат. Была такая песьня. «Жил да был чёрный кот за углом, и кота ненавидел весь дом...» Дык той цемнаскуры студэнт сьпяваў «Жил да был белый кот за углом...» Уратаваў мяне дырэктар тэхнікуму Тумас.

— Але ж Вы ня толькі ў Менскім тэхнікуме сувязі вучыліся?

— Так. Перад тым — у Кіеве, на геоляга. Адтуль, не давучыўшыся, зьехаў. Пакахаў дзяўчыну. Мне было 14 гадоў, а мясцовым суседзям па інтэрнаце пад 20. Вось яны мяне моцна й білі, каб адчапіўся ад яе. Пару разоў завярнулі ў коўдру і білі кедамі. Я цярпеў, бо кахаў. А калі ўжо кашлянуў крывёю, ня вытрымаў. Таму мама і прыехала з завернутымі ў хустачку 25 рублямі і фразай «Уся вуліца кажа, што ты нідзе не давучысься»... Памянёны Тумас таксама мяне павыхоўваў. Рукой.

— А Вы часта кахалі?

— Вельмі. Наймацней пакахаў цяперашнюю жонку.

— Чаго нельга рабіць з каханым чалавекам?*

— Наўмысьнай крыўды.

— Як Вы будзеце жыць у Варшаве? Як бачыце сябе?

— Два шляхі маю — мастацтва і вера. Чалавек не закон, не падлягае перагляду. Я б хацеў зьмяніць сябе. Я ўсё жыцьцё сабой незадаволены.

— Якое апошняе расчараваньне?

— Я ўбачыў, што мой асабісты стан тут не палепшыўся, і мой лёс мала каго цікавіць. Як было там, у Беларусі, так і тут. Нікога не цікавіць, што ты, усіх цікавіць, як цябе скарыстаць.

— Ці пішаце вершы?

— Так.

*Вазьму ў далонь лязо калёнае*
*І кроплю выцісну зь ляза*
*Агню — агнём наканаванае*
*Вадзе — сьляза*
*У цемру болем перакулены*
*На-азіяцку торгну скуламі*
*Сусьвет, што бачыўся ў сьлязе*
*Шыпіць зьмяёю на лязе*

— А пра Беларусь?

— Беларусь у душы. ■

> «У мяне няма запаснай Радзімы, я быў і застаюся грамадзянінам сваёй краіны, ва ўсім гатовы падзяліць яе лёс, апроч несвабоды.»
>
> Уладзімер Някляеў, 20.07.99, Варшава

> «Я б хацеў, каб зь сёньняшняга дня пачала зьдзяйсьняцца тая ідэя, якая была закладзеная пасьля абвяшчэньня незалежнасьці краіны, калі мы ўздымалі бел-чырвона-белыя сьцягі з гэтым пачуцьцём вялікай-вялікай радасьці. Я помню гэтае адчуваньне шчасьця, якога ніколі больш не адчуваў — з нагоды, якая мяне асабіста не кранала. Я разумею шчасьце ад каханьня, ад паэзіі. Я ня ведаю, што можна адчуваць шчасьце ад таго, што маеш дзяржаву, сымбалі...»
>
> Уладзімер Някляеў, 20.07.99, Варшава

---

чымсьці накшталт ваеннай акадэміі», — згадваў Фрунзэ, які ўсталёўваў тут чырвоны лад і змагаўся зь беларушчынай. Чамусьці літаратарам не прыйшло ў галаву перайменаваць гэтую вуліцу. Вось і стаіць іхны Дом на рагу Румянцава ды Фрунзэ, насупраць парку Горкага. І належыць цяпер ня ім, а прэзыдэнцкай адміністрацыі.

Новы Дом літаратара, які з фасаду выглядае як разгорнутая кніга, запраектаваў архітэктар Грыгор'еў. Менавіта пад ягоным кіраўніцтвам, тады галоўнага архітэктара Менску, быў зруйнаваны стары Дом літаратара, а крыху раней — і старажытная Няміга. Варта згадаць, што і падземныя пераходы менскага мэтро, у тым ліку і на Няміге, былі распрацаваныя пад кіраўніцтвам усё таго ж Грыгор'ева.

Між іншым, пасьля гэтых самы Грыгор'еў стаў архітэктарам у Маскве. Але гэта так, да слова. ■

---

вацца ў іншамоўнае жыцьцё, якому няма альтэрнатывы, і пры гэтым хоча пакінуць адзнакі паходжаньня. Толькі ў нашым выпадку гаворка ідзе не пра нацыянальныя прыкметы, а пра маральныя.

Для Беларусі, нерэлігійнай і ненацыянальнай, маральныя арыенціры наўпрост зьвязваюцца з начальствам. Я памятаю жанчын, якія з гонарам казалі, што ў нас кіраўнік дзяржавы — прафэсар і інтэлігент, маючы на ўвазе Станіслава Шушкевіча. І я памятаю Лукашэнкавы словы пра тое, што Мілошавіч — добры чалавек, але прафэсар, маўляў, што ён можа!.. Адсюль вынікае, што зьмяніць становішча і зьмяніць сюжэт у нас можа, відаць, толькі зьмена ўлады.

Жыцьцё, вядома, не стаіць на месцы. Але ў нашым сюжэце ня будзе ані «справы лекараў», ані рэпрэсіяў за вальналюбства. Бо наша гераіня ніколі ня будзе супрацьпастаўляць свае лепшыя якасьці навакольнаму хамству. Яна міжволі разглядае гэтыя рэчы ў розных вымярэньнях, якія не перасякаюцца і не канфліктуюць міжсобку. Канфлікт заключаецца якраз у тым, што наша гераіня будзе працягваць свой чысты палёт у лябірынтах бруду, якія асацыююцца для яе з самім жыцьцём. ■

# Музэі, калекцыянаваньне, зьбіральніцтва

***Беларускія музэі. Гісторыя. Кроніка. Сучаснасьць. Музэйныя сшыткі. — Уклад. А.Калбаскі. Наклад 250 ас. — Менск, 1998. — 132 с. ISBN 985-6138-16-7***



Жанар «сшытку» няпэўны. Ёсьць «Віцебскі сшытак» — салідны навукова-папулярны (гістарычны) і мастацкі часопіс. Ёсьць «Музэйныя сшыткі» — зборнікі артыкулаў Беларускага інстытуту праблемаў культуры. Чацьверты зь іх прысьвечаны гісторыі музэяў. Аказваецца, ужо напісаныя дзьве дысэртацыі па гісторыі нашых музэяў: адна — пра зборы другой паловы XVIII — пачатку XX ст., другая — пра музэі 1971—1985 г. Гэтыя досьледы склалі аснову «Музэйнага сшытку», да чаго былі адмыслова напісаныя разьдзелы пра зьбіральніцтва са старажытных часоў, крыху гаварылася пра даваенныя беларускія музэі, далучана «Кроніка станаўленьня і разьвіцьця музэйнай справы ў Беларусі» да 1996 г. Каб яшчэ трохі натужыцца і напісаць разьдзел пра музэі ў 1945—1970 гг., была б абагульняльная манаграфія «Гісторыя музэяў Беларусі», якая даўно патрэбная і для якой назапашана безьліч матар'ялаў.

Спроба знайсьці вытокі музэйнай справы (таго ж калекцыянаваньня) завяла аўтараў у вельмі далёкае мінулае. Дзіўную ролю адыграла тэрміналягічная двухсэнсоўнасьць. Для аўтараў «Сшытку» калекцыянаваньне і зьбіральніцтва — сынонімы. Так яно і ёсьць, калі гаворка йдзе пра этымалёгію. Толькі для сучасных гісторыкаў (і ня толькі для іх) не ўсялякае зьбіральніцтва — гэта калекцыянаваньне. Археолягі зьбіральніцтвам называюць просты збор і нарыхтоўку гатовых прадуктаў ежы. Аўтары «Сшытку» ў прынцыпе з гэтым згодныя: «Пры раскопках Крывінскага тарфянікавага паселішча (III—II тыс. да н.э.) выяўлены сьляды зьбіральніцтва — шкарлупіны лясных і вадзяных арэхаў, жалуды, ільняное семя, рэшткі рачных малюскаў, крышталікі рыб». Першы музэй Беларусі? «У жалезным веку працягвалася і набыла размах звычка зьбіраць, захоўваць і хаваць матар'яльныя каштоўнасьці: калекцыі каштоўных мэталяў, камянёў, манэт.» Далей пошукі вытокаў вядуць у скарбніцы полацкіх князёў, якіх ніхто ня бачыў, затое існаваньне скарбу вялікіх князёў літоўскіх засьведчана відавочцамі.

Для выкладу далейшай гісторыі музэяў падмуркам сталі манаграфіі Г.Каханоўскага і Л.Аляксеева. У «Сшытку» нічога новага да іх зьвестак не дададзена, ды й самі аўтары на гэта не разьлічвалі («спроба яшчэ раз узгадаць імёны першых зьбіральнікаў і калекцыянэраў»). Аднак пры жаданьні і ўменьні можна дадаць новых фактаў яшчэ на адну кнігу. Вось Канстанцін Радзівіл, які ў сваім Паланэчкаўскім палацы сабраў адну з самых вялікіх мастацкіх калекцыяў: карціны Бачарэлі, Лямпі, Пешкі, Рустэма, Лятура, радзівілаўскія габэлены, гравюры, мэдалі і г.д. Вядома, частка гэтага збору паходзіла зь Нясьвіжу, пасьля была вывезена ў Польшчу і зьберагласяда нашага часу. Эўзэбіюш Марыя Ян Станіслаў Лапацінскі ў маёнтку Лявонпаль на Мёршчыне зьбіраў карціны, малюнкі, гравюры, мэдалі; здаецца, таксама нешта з тато захавалася. І колькі яшчэ калекцыянэраў такога кшталту было на Беларусі. Матар'ял пра іх сабраны нястомным Раманам Афтаназы ў шматтомным выданьні «Гісторыя рэзыдэнцыі». Застаецца дастаць яго адтуль і ўвесьці ў шырокі ўжытак. Што яшчэ варта зрабіць, то гэта апрацаваць іншую польскамоўную літаратуру, бо калекцыянэр у XIX ст. — перш за ўсё пан-«паляк».

Дасюль у нашых выданьнях не было аніякіх зьвестак пра даваенны «польскі» Нясьвіскі музэй, які месьціўся ў гарадзкой ратушы, а там былі такія каштоўнасьці як залатыя ключы ад торада і пэргамэнныя прывілеі. Куды ўсё зьнікла, невядома. Крыўдна, што пра зьніклыя магілёўскія срэбныя ключы напісана ў нас усюды, а пра нясьвіскія — нідзе. Яшчэ раз узгаданы вядомы сыгнэт полацкага князя Ўсяслава Чарадзея, праўда, адзнака «мае сусьветнае значэньне» для такога роду фальсыфікатаў — залішні сантымэнт.

Савецкім музэям дасталося ў «Сшытку» добра. Пералічаны ўсе іх грахі, так што на Страшным судзе Пану Богу ня будзе чаго і сказаць. Верхам гістарычнага беспамяцтва названа стварэньне ў 1948 г. Кобрынскага музэю Суворава. Вялікі кавалак аб'ёму «Сшытку» займае кроніка музэйнай справы Беларусі з найдаўнейшых часоў, за якія ўважаецца XII ст. (а як жа шкарлупіньне арэхаў III тыс. да н.э.?).

На жаль, кроніка складзена паводле апублікаваных тэкстаў, хоць у нетрах роднага «Сшыткам» Міністэрства культуры хаваюцца арыгінальныя дакумэнты, калі які музэй заснаваны і калі адкрыты. Асобныя зьвесткі дасюль не адшуканыя. Чаму мяжу існаваньню Нясвіскага музэю Радзівілаў аўтары кладуць на 1772 г., калі апошні раз яго рабавалі ці то ў 1939 г., ці то ў 1944 г.? Застаецца спадзявацца, што гэта былі апошнія з рабаваньняў нашых музэяў.

Было б варта таксама ўзгадаць Беларускую бібліятэку і музэй імя Ф.Скарыны ў Лёндане.

**Валеры Пазьнякоў**



# Кніга пра Валер'я Маракова

***Маракоў Л. Валеры Маракоў. Лёс, кроніка, кантэкст. — Менск: Беларускі кнігазбор, 1999. — 192 с. ISBN 985-6318-47-5***



Кніга выйшла зусім нядаўна ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор» (Менск, 1999). Яна напісана ў жанры цашыранага летапісу жыцьця таленавітага беларускага паэта Валер'я Маракова, загубленага ў самым росквіце сіл у 30-я.

Валеры Маракоў быў паэтам з боскай ласкі. Пазнаючы яго творчы і жыцьцёвы лёс, мы пазнаем і лёсы тых двухсот пяцідзесяці рэпрэсаваных беларускіх пісьменьнікаў, якія разам зь ім закладалі падмурак сучаснай беларускай літаратуры. Толькі за 1937-ы год было расстраляна 86 беларускіх пісьменьнікаў, больш за 100 саслана на Калыму, у канцлягеры Сібіру.

Леанід Маракоў, аўтар кнігі — не гісторык, не літаратар, а радыёінжынэр і родны пляменьнік Валер'я Маракова, сын яго малодшага брата Ўладзімера. Да нядаўняга часу (так склаліся абставіны) ён, адарваны ад сям'і, і не падазраваў пра трагічны лёс і талент свайго дзядзькі. А калі пачаў глыбей знаёміцца са сваім радаводам, настолькі захапіўся, што за кароткі час здолеў сабраць усё, што датычылася творчасьці Маракова і іншых рэпрэсаваных пісьменьнікаў.

У змрочных 30-х гадах, у цяжкай, пераднавальнічнай атмасфэры, калі пачаліся арышты, прадчуваючы, што і яго не мінуць чэкісты, Валеры Маракоў пісаў горкія, трывожныя радкі: «Я стаміўся, прыцих, я ня знаю! // Недзе вецер спраўляе магільны разгул... // І так моцна, так глуха галосіць душа, // І на сэрца з трывогай кладзецца рука...»

Першы раз на Галгофу В.Маракоў узышоў у 1935 годзе (першы арышт), затым другі ў 1936-м, і прыняў свой крыж гэты мужны 28-гадовы паэт 29 кастрычніка 1937 году. Разам зь ім у гэты дзень былі расстраляныя Я.Бранштэйн, А.Вольны, П.Галавач, А.Дудар, Х.Дунец, М.Зарэцкі, В.Каваль, М.Кульбак, Ю.Лявонны, З.Півавараў, В.Сташэўскі, І.Харык, П.Хатулёў, М.Чарот, П.Шастакоў, А.Юдэльсон. 30 кастрычніка забілі Т.Кляшторнага, Я.Нёманскага, Ю.Таўбіна.

*О Беларусь, ці чуеш ты, ці чуеш?*
*Твой лепшы сын расьпяты за цябе...*

Хоць гэтыя радкі Маракоў прысьвяціў Каліноўскаму, яны маглі б стаць эпітафіяй і яму самому.

**Лідзія Савік**

## НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

**Беларусь у гады вялікай айчыннай вайны:** Праблемы гістарыяграфіі й крыніцазнаўства: Зборнік артыкулаў. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 233 с. — Наклад 650 ас. ISBN 985-08-0099-2

**Грамадзянская альтэрнатыва:** Грамадзка-палітычны аналітычны бюлетэнь. № 3, 1999. — Менск. — 46 с. — Наклад 299 ас.

Грымаць А., Варанецкая Л., Пашкевіч У. **Народная пэдагогіка беларусаў.** — Менск: Выд. Ул. Скакун, 1999. — 256 с. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-6235-13-8

**МІЦ Інфарматар. № 1,** 1999/ Уклад. І. Віданава. — Менск. — 28 с. — Наклад 299 ас.

Пушкін А. **О муза...** Пераклады з расейскае М.Танка/ Укладальнік А.Данільчык. Прадмова У.Мархеля. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 32 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-08-0306-1

**Роля студэнцкіх арганізацыяў у пабудове грамадзянскае супольнасьці:** Матар'ялы міжнароднае канфэрэнцыі. — Менск, 1999. — 31 с. — Наклад 200 ас.

Роўда Ўл. **Палітычныя ўмовы дзейнасьці трэцяга сэктару Беларусі.** — Менск: Асамблея дэм. няўрад. арг-цыяў, 1999. — 55с. — Наклад 299 ас.

**Студэнцкая думка:** Часапіс незалежнае студэнцкае моладзі. № 4, 5 1999. — Менск: Цэнтар «Выдавецкая ініцыятыва». — 44 с. — Наклад 1000 ас.

*Ад гэтага нумару часапіс выходзіць як афіцыйна зарэгістраваны Дзяржкамдрукам. Зьмешчаныя матар'ялы пра выключэньні студэнтаў з ВНУ, мовазнаўчыя й мастацтвазнаўчыя дасьледаваньні, а гэтаксама пераклады, «папулярныя» артыкулы пра спосаб найтаньнейшага выбару вясельнае сукенкі ды парады юрыстаў, як пазьбегнуць разьмеркаваньня.*

Старычонак В. **100 твораў зь беларускае літаратуры:** У дапамогу абітурыенту й школьнікам. — Менск: Вышэйшая школа, 1999. — 272 с. — Наклад 7000 ас. ISBN 985-06-0540-5

Сянько Н. **Адказы на пытаньні білетаў з гісторыі Беларусі:** 9 кляса. — Менск, 1999. — 79 с. — Наклад 30000 ас.

**Матар'ялы з гісторыі Беларусі для выпускнікоў:** 9 кляса/ Пад навук. рэдаг. А.Каханоўскага і А.Яноўскага. — Менск, 1999. — 224 с. — Наклад 10000 ас.

*Дзьве падобныя кнігі розьняцца ў дзьвюх прынцыповых рэчах: першая мае ў тры разы большы наклад і ў тры разы меншы аб'ём; другая кніга зьмястоўнейшая й будзе праўдзівым дапаможнікам для выпускніка.*

**Тлумачальны слоўнік беларускае літаратурнае мовы:** Больш за 65 тыс. словаў: Другое выд., дапрац. і дапоўн. / Пад рэд. М.Судніка і М.Крыўка. Афармленьне А.Хількевіча. — Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 1999. — 784 с. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-11-0057-9

*Выданьне кадыфікуе лексыку кніжнага стылю «наркомаўскае» адмены. 65-тысячны «Расейска-беларускі слоўнік» Міколы Байкова й Сьцяпана Некрашэвіча быў бы карысьнейшы для людзей, але яго не перавыдаюць.*

Тычына М. **Аляксандар Пушкін і Якуб Колас/** НАНБ. Ін-т літ-ры імя Я. Купалы. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 168 с. — Наклад 1500 ас. ISBN 985-08-0285-5

Шарэпа-Лапіцкая А. **Пад небам Крыму:** Вершы. — Менск: Самавыдавецтва, 1997. — 62 с.

*Алёна Шарэпа-Лапіцкая, два браты якой аддалі жыцьці, змагаючыся з сталінскай акупацыяй, сама сябе называе «нявестай Багдановіча». Кніга прысьвечана Максіму, магілу якога ў Ялце, занядбаную, засьмечаную, аўтарка сама ўпарадкавала. Пра набыцьцё кнігі можна даведацца ў рэдакцыі.*

Бондар А. **Весіння Ересь:** Поезії/ Передм. Р. Харчук. — Кіеў: Смолоскип, 1998. — 64 с.

Бутромеев В. **Корона Великого Княжества:** Диссертация в полном смысле этого слова на тему: кто же такие белорусы, откуда взялись и что они делают во всемирной истории. — Масква: ОЛМА-ПРЕСС, 1999. — 336 с.: іл. — Наклад 1000 ас. ISBN 5-224-00193-5

*Кніга ня дужа «дысэртацыйная», але цікавая спосабам падаваньня гістарычнага матар'ялу — навуковая фантастычнасьць, зьмешаная з навуковаю папулярнасьцю. Добра чытаецца ў грамадзкім транспарце. Гэты раман атрымаў розгалас у Маскве, яшчэ калі яго надрукавала «Дружба народов». Неўзабаве той жа часопіс надрукаваў вершы Някляева, у якіх «глухія здані» перакладзеныя як «глухие зданья».*

Кутузова Н. **Нация, религия и государственность в полемической литературе Беларуси к. 16 — первой пол. 17 в.:** Вучэбны дапаможнік. — Менск, 1998. — 110 с. — Наклад 500 ас.

*У кнізе разглядаецца працэс фармаваньня сацыяльнае, філязафічнае й прававое думкі Беларусі ў 16 — пачатку 17 ст., выяўлены ў палемічнай літаратуры ўплыў на яго Берасьцейскае царкоўнае уніі. Прасочваецца хада зьмяненьня сьветагляду пісьменьнікаў-палемістаў на праблемы нацыі, рэлігіі й дзяржаўнасьці. Рэцэнзэнт гэтае працы — доктар філязафічных навук С.Падокшын. Кніжыца рэкамэндаваная да друку Навуковаю радаю Інстытуту філязофіі й права НАНБ.*

Мицкевич А. **Слышу жизни зов:** Стихи/ Складаньне і пераклад з польскае. Р. Алімпіявай. Прадмова В. Пілата/ Мастак Э. Букрынская. — Калінінград: Бурштыновы сказ, 1998. — 96 с. — Наклад 2000 ас. ISBN 5-7406-0208-4

**Кнігі чытаў Віктар Мухін**

# Калі Юга

**Руны**
**1999, ПанРэкардз**



Група з такім даволі паграджальным назовам ашчасьлівіла ўласных прыхільнікаў і рэшту адэптаў року другім доўгачаканым альбомам з даволі неславянскім назовам «Руны». Думаецца, пасьля выданьня альбому ў сьвеце (ня толькі рок-музыкі) нічога страшэннага не адбудзецца, гэтаксама, як не адбылося і пасьля 20 ліпеня. Адзіная розьніца паміж былым прэзыдэнтам ды «Калі Югай» у тым, што першы па сутнасьці зрабіўся нікім, а музыканты калектыву атрымалі выдатны шанец зрабіцца ледзь ня ўсім.

Кажу гэтак таму, што праграма «Руны» спадабалася. Дагэтуль рэдка сустракаеш у беларускай рок-музыцы калектывы зь імгненна пазнавальным саўндам, індывідуальнай манерай выкананьня і песьнямі, што надоўга застаюцца ў памяці. Уласна, пра тое, што «Калі Юга» валодае такім вось адмысловым почыркам, сьведчыла ўжо першая праграма калектыву, выдадзеная яшчэ ў 1997 годзе. У параўнаньні зь ёю гэтая падалася больш замкнутай, скіраванай перш за ўсё (прабачце за навуковы штыль!) унутр уласнае творчасьці. «Калі Юга», калі хочаце, — гэта такія «гарачыя беларускія хлопцы», якія мала што публічна гавораць і не ірвуцца на першыя старонкі «Советской Белоруссии». Яны проста працуюць, і ў іх тое атрымліваецца пераканаўча.

Не хацеў бы сурочыць, але мне думаецца, што праграма «Руны» зьявіцца адным з рэальных прэтэндэнтаў на «Рок-карону» ў намінацыі «Альбом году». На гэтым альбоме зьмешчаныя ў асноўным новыя, напісаныя ў апошні час, песьні. Зь вядомых хіба што толькі «Золото» адразу ж нагадвае папярэдні, так бы мовіць, этап творчасьці. У цэлым жа праграма складаецца ў асноўным з удалых і вельмі ўдалых нумароў («Черный алмаз», «Темный брат», «Я им скажу»). Ня вельмі ўдалым нумарам падалася мне песьня «Кит», акая апявае сумны лёс глухаҥямога сысуна, які пачувае сябе такім самотным у сьвеце капіталу, дзе чым бліжэй да дна грамадзтва, тым меней шанцаў на паратунак.

Не магу не адзначыць яшчэ адзін момант, на які часта забываецца нашыя айчынныя рокмэны. Гэты момант завецца «аранжаваньне» і ў дачыненьні да творчасьці «Калі Югі» іграе гэткую ж вызначальную ролю, як і наяўнасьць у мэтро, напрыклад, вагонаў. Музыканты «Калі Югі» вельмі чуйна ставяцца да агульнага гучаньня. Узьнікае нават такое ўражаньне, што па меншай меры ў аднаго з музыкаў ёсьць нават музычны слых, а ў двух — яшчэ і музычны густ. Статыстыка, здольная ўразіць, бо часьцей за ўсё ці адно ці другое цяжка адшукаць наогул, калі перабраць з паўтузіну якіх іншых калектываў. Зрэшты, ня толькі рок-музыкі...

«Калі Юга» тонка і да месца ўжывае самыя розныя, а ня толькі адны гітары, інструмэнты, і найбольш плённы вынік атрымліваецца тады, калі поруч гучаць, напрыклад, флейта Пана запрошанага на запіс скрыпача-вікінга Аляксандра Цэйтліна ды інтэлігентных тэмбраў клявішныя. Зусім да месца выкарыстоўваюцца і струнныя. Уражвае і той факт, што Юры Гарачка нейкім чынам утаймаваў гітарыста Андрэя Дзяменцьева, які пад час канцэртаў нібы імкнуўся зьнявечыць гучаньнем гітары апошніх з тых, хто яшчэ здольны прамармытаць пад уласны нос адну ці дзьве руны накшталт «Чэсна абяшчаю...». Некаму можа падацца, што мэлядычны матэрыял альбому крыху аднастайны. Не пагаджуся, бо магу акрэсьліць тое па-іншаму: музычны матэрыял стылёва зьнітаваны, а што да аднастайнасьці, дык і рок-н-ролы, прабачце, збольшага трымаюцца на адной і той жа гарманічнай схеме. А тут — «Руны», справа куды больш сур'ёзная...

Адным словам, ня ведаючы імя прад'юсара гэтага альбому (а яго хутчэй за ўсё і не было), можна здагадацца, што (яшчэ раз перапрашаю за штыль!) гукавую палітру альбому музыкі стваралі разам, калектыўна. Гэта якраз той самы выпадак, які сьведчыць пра карысьць калгаснага прынцыпу арганізацыі гаспадаркі, які — альбом «Руны» пацьвярджае гэта — свайго патэнцыялу ня вычарпаў.

**Слухач**

# Зьніч

**Язычнік я...**
**1997, Зьніч**
**Дух зямлі**
**1999, Зьніч.**





Гурт «Зьніч» ад самага пачатку быў канцэптуальна беларускім рок-праектам. Усё ў ім, ад назвы і мяккага знаку ў ёй да гучаньня і сцэнічнага вобразу, падпарадкавана адзінай мэце. І гэта пры тым, што «зьнічы» вызнаюць прыхільнасьць да экстрэмальных, цяжкамэталёвых плыняў, дзе назіраецца асабліва ўстойлівы англамоўны касмапалітызм. Сотні гуртоў у нас бяздумна капіююць, «Зьніч» жа стаў бясспрэчна тутэйшай зьявай і ўзорам музычнай супэрсучаснасьці, грунтуючыся на спадчыне культуры паганскіх часоў.

Музыкі самі падкрэсьліваюць, што сваю творчасьць яны не супрацьстаўляюць хрысьціянству, каб не актывізаваць разбуральных інстынктаў. Наадварот, шукаюць стваральны пачатак у той далёкай эпосе, калі героямі народнага эпасу былі Дажбог, Ярыла, Каляда, ваўкалакі і русалкі... І тое, што ў «Зьніча» гэта атрымліваецца, засьведчыць любы слухач. Успомнім, напрыклад, Купальле зь «Беларускай маладзёжнай» 1997 году, што адбывалася побач са станцыяй мэтро «Плошча Перамогі». Ніхто з фанаў «Зьніча» ды іншых прысутных, калі купальская навальніца нарабіла шмат бяды па Беларусі, ня рынуўся на злом галавы ратавацца ад кропелек дажджу, топчучы ўсё перад сабой... Усе адцягваліся пад дажджом і градам, нікому не перашкаджалі і нікога не калечылі.

Станоўчая «энэргетыка» лучыць два новыя альбомы, выдадзеныя амаль аднасова, хоць і пазначаныя яны 1997-м і 1999-м. Першы зь іх — «Язычнік я...» па традыцыі прэзэнтатыўны, своеасаблівая заяўка на самастойнасьць. Стылістычна ён блізкі да ўзораў цяжкамэталёвага готык-року, хоць дзякуючы тэкстам А.Таболіча, рытуальным акцэнтам рытм-сэкцыі у песьнях ужо па-гаспадарску пачуваюцца багі паганскага пантэону. Тытульная песьня альбому ўвайшла ў CD «Вольныя танцы: слухай сваё!»

У другім альбоме 1999 году «Дух зямлі» «зьнічы» шукаюць новыя ідэі ў этнаграфічных крыніцах дахрысьціянскіх часоў, калі повязь нашых продкаў з Прыродай, Космасам стварыла непаўторную, сёньня амаль згубленую і забытую цывілізацыю.

Яе сьляды фіксуюцца ў старадаўніх песьнях, выканаўцаў якіх знаходзяць яшчэ ўздельнікі «Зьніча», і ў фальклёрных зборніках. Так, музыкі выкарысталі том «Живописной России» аўтарства Адама Кіркора. Там прыводзіцца тэкст старажытнай паганскай песьні, якім пакарысталіся музыкі «Зьніча», напісаўшы цудоўную мэлёдыю да яго. У выніку атрымалася песьня «Ой, дымна за дваром». Вось як перадае поўны зьмест гэтай беларускай сагі сам Кіркор: «У песьні распавядаецца пра жаніцьбу Дажбога з Ладай (Лёляй), марской царэўнай. Дажбог убачыў у небе Ладу і закахаўся ў яе. Лада езьдзіла па моры ў залатой лодцы з срэбным вяслом і плёскала вадою на Дажбога. У яе залатая каса. Дажбог едзе да марскога цара, каб ажаніцца з Ладаю. Але марскі цар прыбіў яго. Дажбога (Івана альбо Янку) вязуць паўмёртвага...»

Астатнія ж песьні — своеасаблівыя расшыфроўкі складаных архетыпаў паганскай міталёгіі: маці-Зямля, Прырода, Сонца, Жыцьцё і Сьмерць.

Асобна на альбоме вылучаецца запіс беларускай народнай песьні «На граной нядзелі». Гэта сольны дэбют новай вакалісткі і клявішніцы гурта Веранікі Шклянік, якая вучыцца па клясе вакалу ў Каледжы мастацтваў.

Новыя альбомы гурта «Зьніч» даюць добрае ўяўленьне пра беларускі паган-рок.

**Анатоль Мяльгуй**

# Мясцовы час

**Халі-галі...**
**1999, Мясцовы час**



Полацкі рок-гурт «Мясцовы час» болей за пяць гадоў маўчаў. Яго фактычна не існавала. І вось, пасьля працяглага маўчаньня, — новы, доўгачаканы альбом. Палачане назвалі яго супэрантыідэалягічна — «Халі-галі...» Каго-каго, але мяне назва не магла завесьці ў зман. Цяжка паверыць у тое, што гурт раптам захоча адмовіцца ад сваіх галоўных фішак — барочнага фальцэту Алеся Кузьміна, спавядальнай інтанацыі, эстэтыкі пострамантызму з элемэнтамі экзальтаванага бунтарства і немудрагелістых музычных рытмаў. Усё гэта ў новым альбоме ёсьць. Над «Халі-галі...» музыкі працавалі самастойна, як раней, тэксты пісаў Кузьмін (на жаль, у тэкстах багата русізмаў). Паўплывала і тое, што апошнім часам «МЧ» часта выконваў песьні са «Слоты». Таму ў альбом патрапіла нават сьвежая вэрсія аднэй з самых раньніх песень гурта — «Будзе так!». У панкаўскай эстэтыцы зробленыя песьні «Ваня-Тэрмінатар» і «Дывэрсант па мянушцы «Жгут». Тут узьнікае аналёгія з NRM. У апошнім альбоме незалежных мрайчукоў «Пашпарт грамадзяніна NRM» (якая ідэалягічная назва!) побач з патрыятычнымі песьнямі кшталту «Беларускі шлях» можна пачуць сьцёбавую «Кумбу». Аднак пры яўна папсовай назьве новы альбом «МЧ» больш ідэалягічны за NRM, кансэрватыўна-ідэалягічны. Яшчэ ў «Нашай ускраіне» палачане пачалі сьпяваць пра шлях да Бога. А вось цытата з «Халі-галі...»:

*Наша неба тут,*
*наша воля тут,*
*наша вера тут,*
*нас ня здоляць тут —*
*бо з намі Бог.*

Цяжка ўявіць, каб такое прасьпяваў Вольскі. Для Кузьміна ж гэта арганічна і шчыра. Уплыў Полацку? Магчыма. А вось яшчэ адна цытата зь першай песьні альбому, якая называецца «Сьпявай разам з намі»:

*А нас не спыніць ужо,*
*не пусьціць, як пыл*
*па ветры,*
*у нас льецца тая кроў,*
*што яднае нас адвеку,*
*і мы не забудзем край,*
*што схаваны*
*ў нашых сэрцах,*
*брат мой, сваю руку дай*
*і сьпявай разам з намі.*

А мне дык узгадваецца Янка Купала: «Няхай тыя ўставаюць Рана да зары, Што свабодачку кахаюць! — А ты, браце, сьпі!» Або: «Толькі ты, брат, адзін, Як забіты, ляжыш І на долю сваю Не ўстаеш, не глядзіш». Або: «Гэй жа, брацьці, усе мы разам Песьню запяём Дружна сьмела, на сьвет цэлы Аб жыцьці сваём!» Падобна, толькі ня тая інтанацыя. Бракуе дзеясловаў загаднага ладу і аптымізму. Таму ў Купалы рамантызм, а ў «Мясцовага часу» пострамантызм.

**Алесь Аркуш**

# КАНТАКТ АДБЫВАЕЦЦА, КАЛІ ЁСЬЦЬ ЖАДАНЬНЕ

Ужо сёньня беларускі відэаман можа сабраць даволі зьмястоўную калекцыю. Цікава, што беларускае відэа пачынаецца менавіта з бліскучага галівудзкага дэбюту французскага рэжысэра Люка Бэсона — фільму «Пяты элемэнт».

Напраўду, Галівуд даўно сілкуецца з французскіх ідэяў — усе камэдыі рымэйкавалі. А колькі амэрыканскіх рэжысэраў абсмоктвалі тую ж бэсонаўскую «Нікіту»? А што ж «Пяты элемэнт»? Ім ён разам з Францыяй пацягнуў у Галівуд усю Эўропу. І справа ня толькі ва ўдзеле ў карціне Мілы Ёвавіч, якая нарадзілася ў Кіеве ў сям'і чарнагорца Богі Ёвавіча і расейкі Галіны Логінавай, а ў самой структуры вобразаў стужкі. Як мы чытаем пераклад, напрыклад, «Мобі Дзіка» і разумеем дай Бог палову з таго, што даходзіць падсьвядома да амэрыканцаў, так і «Пяты элемэнт» па-за сюжэтам мае прыхаваную інфармацыю, ключ да якой — у нутраным сьвеце эўрапейца.

Амэрыканец разам з намі бачыць эфэктны фантастычны сюжэт пра прыхадняў з космасу, якія хочуць захапіць нашу цывілізацыю, знайшлі ўжо чатыры элемэнты апанаваньня ёю — вецер, агонь, дождж, зямля — і шукаюць пяты. Кожныя трыста гадоў яны вяртаюцца сюды з гэтымі намерамі, і ніяк не дасягнуць мэты, хоць штораз зямное зло дапамагае ім быць бліжэй да яе... Усё?

Не, браточкі, спадар Бэсон сказаў значна болей. Памятаеце першыя сцэны стужкі: Эгіпэт, 1914 год? Прыхадні зноў на Зямлі, дабраліся ажно да пірамідаў Хеопса... Прафэсар, які дасьледуе іх, у лоб сутыкаецца з чужынскай пачварай і напалохана перапытвае: «Вы што, немец?» Тут ня проста памылковае найменьне чужынца, тут эўрапеец выказвае свой вопыт асэнсаваньня сусьветнага зла: 1914 год, немцы — гэта ж пра вайну. Цікава, што ў беларускім перакладзе (German — немец) гэты нюанс набывае яшчэ больш глыбокі сэнс: у нас здаўна чужынцаў, што слова зразумелага ня вымавяць, называюць «нямымі», «немцамі», а братоў сваіх, якія валодаюць словам, — «славенамі», «славянамі»...

А што ж Амэрыка? Сутнасьць тамтэйшай нэацывілізацыі, што ствараюць на чужой тэрыторыі прыхадні з усяго сьвету, цудоўна выказвае герой Бруса Ўіліса — таксіст XXIII ст. Корбэн Далас у размове з галоўнай гераіняй, сымбалем еднасьці чалавецтва, носьбітам «пятага элемэнту» — Лілу: «Ты дзіўна гаворыш, а я размаўляю толькі на дзьвюх мовах — ангельскай і дрэннай ангельскай». У яго, як бачым, свае Слова, але ён здольны зразумець і чужое, калі яно хоць трохі будзе падобнае на сваё. Карацей, кантакт адбываецца, калі ёсьць жаданьне кантакту. А праз кантакт яны знаходзяць і сутнасьць пятага элемэнту: дасканалы чалавек — гэта чалавек, здольны да каханьня.

Адно ясна: ёсьць зямля, на якой здольнае прарасьці любое зерне, — Амэрыка. І гэтая зямля прыходзіць да нас, нарэшце, і ў відэакасэтах на нашай мове.

Што да фільму «Пяты элемэнт» па-беларуску, выданьне якога дапамагла зьдзейсьніць суполка «BMAgroup», дык гэта вынік творчай ініцыятывы беларускік перакладнікаў Віталя Станішэўскага і Ганны Каморнік.



Сам Віталь і зрабіў агучваньне на вельмі прыстойным узроўні (без прышчэпкі на носе, з адпаведнымі інтанацыямі, сынхранізацыяй тэксту). Зразумела, беларускі варыянт вядомага фільму ня меў пад сабою нават долі адсотку таго бюджэту, які выпаў стваральнікам арыгіналу (90 мільёнаў даляраў), але прыкметны шоў-прадукт на нашым рынку зьявіўся.

Праца беларускай творчай групы працягваецца. Калі хто жадае набыць «Пяты элемэнт» па-беларуску або падзяліцца ўласнымі думкамі і творчымі плянамі ў гэтым рэчышчы, Віталь Станішэўскі прапануе адрас і тэлефон для кантактаў: 220107, Менск, а/с 150, тэл.: (017) 240-78-01.

Магчыма, гэты адрас закладзе пачатак беларускага Галівуду.

**Вітаўт Мартыненка**

сто твораў мастацтва XX стагодзьдзя

# Юры Герасіменка. ПАРТРЭТ ЯКУБА КОЛАСА



Сярод вялізнае коласавіны ў нашым мастацтве ёсьць некалькі рэчаў, што вартыя ўвагі менавіта мастацкімі вартасьцямі. Сярод іх — *рыціна* Юр'я Герасіменкі «Партрэт Якуба Коласа».

Першае, што прыйдзе ў галаву чалавеку, які вывучаў Коласа ў савецкай школьнай праграме — гэта поўная неадпаведнасьць гэтага вобразу той паліраванай постаці, якой беларусы былі прывучаныя ўспрымаць паэта. Таму мы мусім прымаць гэты твор як жарт. Як дыялёг зь «дзядзькам Якубам», з жывым чалавекам, чыя папулярнасьць у БССР не магла параўнацца ні з чым.

А любы іншы чалавек, не знаёмы з вобразам клясыка, зразумее, што гэта партрэт мысьляра й літаратара. На што беспамылкова паказваюць і хатняя абстаноўка, і пісьменьніцкія атрыбуты на стале.

Нескладаная кампазыцыя моцна зьдынамізаваная пералікам розных ракурсаў. Галава Коласа — у строгі профіль, крэсла — амаль выгляд зьверху, а ногі, у славутых коласаўскіх «бацінках», ледзь не зьвісаюць з рамкі. Складаецца ўражаньне, што Колас гушкаецца на крэсьле.

Сама штрыхавая манера ў гэтым афорце незвычайная — лёгкая, эскізная, імпрэсіяністычная. Штрыхі пакладзеныя ў розныя бакі, простыя й кругавыя, кожны адпаведны той фактуры, якую ён выяўляе: пляцёнка крэсла, складкі кашулі ды трэсачкі й шчылінкі ў дрэве... Эмацыйная манера лучыць твор з графікай 20-х гадоў. Напрыклад, Філіповіча ці Сеўрука.

Неяк мастацтвазнаўца Віктар Шматаў заўважыў, што «Партрэт Якуба Коласа» адлюстраваны як бы праз калярытныя вобразы твораў пісьменьніка зь іх яркімі народнымі характарамі, прастатой, пачуцьцём добразычлівага гумару. Гэта адзін з самых арыгінальных, самабытных партрэтаў у сучаснай беларускай графіцы». І праўда, гледзячы на гэты калярытны тыпаж, як не згадаць герояў «Новае зямлі» ці «На ростанях». Аднак, перадусім на партрэце — сам Колас. Ня той, які «народны пісьменьнік, акадэмік, член прэзыдыюму», а просты разумны дзядзька, зь нялростым пакручастым лёсам і зь цяжарам досьведу, які вядзе дыялёг сам з сабою, узіраючыся найперш у самога сябе.

*Давай пагамонім, Якубе, з табою.*
*Ну што ж? Не пярэчу. Аб чым?*
*Аб тым, як мы ціхенька пойдзем з кульбою*
*Насустрач дзянькам веснавым...*

*...Мы трошкі з табой пасумуем, вядома,*
*Што скарб наш уплыў дарагі,*
*Што мы ўжо ня знойдзем мастка і парома*
*З старэцкай прабрацца смугі.*

У тыя часы, калі былі створаны гэты афорт, у 1972 годзе, Юры Герасіменка быў яшчэ студэнтам. Мо таму ў гэтым творы, пазбаўленым патэтыкі, кленчаньня перад вобразам выбітнага паэта і адчуласьця, можа самае істотнае, што гэтак вабіць у асобе Коласа — ягоная натуральнасьць. Калі б студэнт Герасіменка задумаўся, напрыклад, пра паэта ці пра чалавека ў сваім палацыку ў двары Акадэміі навук, выйшла б штосьці іншае. А таму вобраз Коласа застаўся невычарпальным...

Жывучы пазьней у Маладэчне, Юры Герасіменка яшчэ ня раз зьвяртаўся да творчасьці Коласа. Дастаткова згадаць ягоныя «Поры году», задуманыя як ілюстрацыі да «Новай зямлі». Аднак «Колас», можа дзеля ягонае гарэзьлівае лёгкасьці, якую мог сабе дазволіць студэнт, гэтак і застаўся адзіным у сваім жанры...

Гэты партрэт пазьней ня надта афішавалі, ён не «ўсплываў» на ўрачыстасьцях да стогадовага юбілею паэта, не патрапіў у энцыкляпэдыі. І нават сам мастак не згадаў яго ў біяграфічнам даведніку «Беларускі Саюз мастакоў». На жаль. Аднак, праўдаю застаецца тое, што гэта — самы цікавы й жывы вобраз Якуба Коласа, не пераўзыдзены й да сёньня...

**Сяргей Харэўскі**



**Юры Герасіменка** (Герасіменка-Жызьнеўскі) (1948, Даўгінава, Меншчына — 1997, Маладэчна) графік, пэдагог. Скончыў у 1977 годзе Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. З 1977 да 1997 выкладаў у студыі выяўленчага мастацтва ў Маладэчне. Ілюстраваў кнігі Коласа, Віткі, Зуёнка і «Знак бяды» Быкава. Узнагароджаны за афармленьне кніжак дыплёмам імя Скарыны.

Сяргей БАЛАХОНАЎ

# DIE MODERNEN SAGEN-4

### ПОМСТА ДАЛЬНАБОЙНІКА

Адзін наш дальнабойнік перапыніў рэйс, каб пасьнедаць у невялічкай дарожнай каварні. Ён акурат прыступіў да сьняданку, калі на стаянку зарулілі тры шыкоўныя хуткасныя матацыклеты. Іхныя гаспадары — тры дзецюкі ў скураных куртках — селі за стол дальнабойніка. Яны спрабавалі завязаць зь ім размову, але шофэр адмоўчваўся. Тады рокеры ўзяліся яго даводзіць: адзін праглынуў ягоную яечню, другі забраў булачку, трэці выпіў каву. Дальнабойнік, аднак, не паддаваўся на правакацыі, заплаціў гаспадыні рахунак ды выйшаў. Калі ён пайшоў, рокеры сталі выхваляцца:

— Гэта ж трэба, такі сцыкун!

— Ага, — прамармытала кельнэрка, — і езьдзіць ня ўмее. Ад'яжджаў, дык пераехаў тры матацыклы.

*Сага шырака вядомая на Захадзе. У ёй выявіліся перадсуды людзей да пэўных груповак моладзі (тут — рокераў).*

### ФАТАЛЬНАЯ СПРОБА

Адзін дзядзька пачуў неяк у піўнусе, што непрацяглым электрычным разрадам можна ўзьняць патэнцыю. Думка пра гэта не давала спакою, і ён колькі дзён разважаў, ці варта паспрабаваць і сабе. Наступным разам у піўніцы, у коле сяброў і знаёмцаў, дзядзька паведаміў, што наважыўсятакі на спробу і абяцаў падрабязна распавесьці пра вынікі. Ладна выпіўшы для сьмеласьці, ён выправіўся дахаты. Болей сябры яго ня бачылі. Два дні апасьля з газэты яны даведаліся пра сьмяротны выпадак з пажылым мужчынам, які вазёкаўся зь няспраўнай настольнай лямпай.

*Спрадвечная мужчынская праблема ў гэтай мадэрнай сазе ператвараецца ў сцэну з тэатру абсурду.*

### ЗАЛАТАЯ РЫБКА

У аднае старой кабеты, што жыла на самоце, была акварыюмная залатая рыбка, якую яна любіла больш за самую сябе. Штодня старая гутарыла зь ёю. Адылі аднойчы рыбка захварэла. Заклапочаная кабета аднесла яе да вэтэрынара. Няшмат цямячы ў рыбах, той усё ж зь першага пагляду зразумеў, што «жывёле» ўжо не патрэбна дапамогі. Адправіўшы кабету, доктар пакінуў, аднак, рыбку ў клініцы. Лячыць ён яе не зьбіраўся і змыў, паўздохлую, ва ўнітаз. У заалягічнай краме доктар прыдбаў за дзесяць франкаў іншую, але ня менш «залатую» рыбку. Забіраючы яе, старая сьвяцілася ад шчасьця. Вэтэрынар жа папрасіў за работу роўна дзесяць франкаў.

*Занатавана ад францускага гісторыка. У Беларусі падобныя сагі невядомыя.*

### АНАЛІЗ МОЧУ

Адзін выпускнік атрымаў позву прайсьці прызыўную камісію. Жадаючы любым чынам унікнуць службы ў войску, ён прыдумаў адну ідэю. Ягоная сяброўка хварэла на цукровы дыябэт. Успадзяваны, што гэтага дыягназу для прызыўное камісіі будзе дастаткова, хлопец здаў на аналіз моч сваёй сяброўкі. Праз нейкі час прыйшло паведамленьне, што, не зважаючы ані на цукровы дыябэт, ані нават на выяўленую цяжарнасьць, ён мусіць у адзначаны час зьявіцца ў ваенкамаце.



*Гісторыкі кажуць, што падобны сюжэт вядомы ў эўрапейскім гарадзкім фальклёры ажно з IX ст.* ■

Слоўнік паняцьцяў

# 8. ПРА ВУЛЬГАРНЫ ФУНКЦЫЯНАЛІЗМ.

Валерка БУЛГАКАЎ



Дзіўнае адчуваньне часта не пакідае мяне, ды й ня толькі мяне, калі я дома, на роднай зямлі, — усё тут добра знаёма, і таму рэчы, краявіды і людзі ўспрымаюцца неяк аж надта тонка, абвострана. А пры ўсім тым — і гэта важна — ніяк не пакідае пачуцьцё няўтульнасьці, наагул здаецца, што штучна створанае асяродзьдзе рэчаў прызначана не для цябе, але ты сам прызначаны, сталёвым ланцугом прыкуты да яго. Як разарваць гэтае заганнае кола? Пасяліўшыся жыць у лесе?

Глыбока-такі ў нас засеў вірус вульгарнага функцыяналізму. Менавіта ён дыктуе свае парадкі: дамы павінны быць умяшчальнымі і квадратнымі, дарогі шырокімі і прамымі, навучаньне простым і даходлівым, мова празрыстай і зразумелай. Акурат так, з такіх «добрых замераў», паўстаюць і ўвасабляюцца ў жыцьцё пустапарожнія канструкцыі, якія, пазбаўленыя хоць якой адухоўленасьці і эстэтычнай аформленасьці, немінуча ператвараюцца ў пародыю на саміх сябе.

Між тым мова непарыўна зьвязана з мэтафізыкай, а за кажным творам рук чалавечых павінен стаяць чалавек. Калі яго падмяняюць «вышэйшыя» меркаваньні, ці то дзяржаўныя інтарэсы, ці то вымаганьні бягучага моманту, то адбываецца дэгуманізацыя прыроджанай жыцьцёвай прасторы чалавека. Тое, што гэта сапраўды страшна, падказвае наш беларускі досьвед — калі чалавеку нідзе няма месца, калі ён ня ўпісваецца ў новы індустрыйны ляндшафт, ён спакваля робіцца ўласным ценем. Каляніяльная заняволенасьць па-свойму таксама «дапамагае» яму ў гэтым — посьпех праграмы каляніза́цыі для карэннага насельніцтва заўсёды абарочваецца яго масавай інфантылізацыяй. Дарослыя людзі, а думаюць і паводзяць сябе як дзеці. Хіба якраз таму ў Беларусі так мала сапраўдных мужчын?

Для эўрапейскіх інтэлектуалаў стала ўжо агульным месцам цьверджаньне, што ў Расеі і на падуладных ёй тэрыторыях заходнія гуманітарныя ідэі традыцыйна ўспрымаліся і засвойваліся (так і карціць дадаць: па-барбарску) павярхоўна, некрытычна. Цяпер можна з поўным правам канстатаваць, што такое ж самае становішча і з заходнімі матэрыяльнымі ідэямі. Стыхія вульгарнага функцыяналізму патрабавала толькі аднаго: абы ехала, абы лётала, абы рэзала і стукала. Што гэта прафанацыя (а што такое прафанацыя, як не ўзьвядзеньне сьвятыні бруднымі рукамі, як не пазбаўленьне спачатнай ідэі ейнай узьнёслай закончанасьці) у сваім найчысьцейшым выглядзе, адумысьля даводзіць, відаць, ня трэба.

Заходняя цывілізацыя трымаецца ня толькі на агульнапрызнаных гуманітарных і матэрыяльных канцэптах, але й на сыстэме этасаў, якія забясьпечваюць яе паступальны рух наперад. Так, немцы выпрацавалі этас працы, жыды — этас кнігі. А што стварылі беларусы? Этас суіцыду? Векавая няволя так і не дала зразумець нам адной вельмі простай рэчы — сэнс нацыянальнага быцьця ня ў тым, каб зрабіцца расходным матэрыялам для дзяржаўнага малоху, а ў тым, каб прарубіць сваё ўнікальнае акно ў сьвет, не ўва ўяўнай перамозе над тэхнікай, а ў знаходжаньні аптымальнага — нацыянальнага — балянсу паміж сьветам прыроды і сьветам тэхнікі.

Зялёныя дамы, мутныя шыбы, разьбітыя тратуары — ну, нарэшце я прыбыў дамоў. ■

Мікола РАБЧУК

# ВЫВУЧЭНЬНЕ ФУКІДЫДА Ў КАЛІФОРНІІ,

***або Чаму мы ва Ўсходняй Эўропе такія бедныя, калі такія разумныя?***

Нядаўна ў «Herald Tribune» прафэсар Гансан распавёў зварушлівую гісторыю пра «выкладаньне Фукідыда ў Каліфорніі». Зварушлівасьць гэтай гісторыі мае прычыну тое, што ў ёй ідзецца не пра якую высакалобую і супэрпрэстыжную навучальную ўстанову кшталту Бэрклі ці Стэнфарду, а пра звычайны дзяржаўны, дакладней стэйтавы, фінансаваны штатам Каліфарнійскі ўнівэрсытэт, адна зь філіяў якога разьмяшчаецца ў правінцыйным мястэчку Фрэсна сярод сельскагаспадарчых палеткаў недзе на паўдарозе між Лос-Анджэлесам і Сан-Францыскам.

У прафэсара Гансана не было ніякіх падставаў спадзявацца, што Фукідыдава «Гісторыя Пэляпанэскай вайны» між спартанцамі ды афінянамі, якая адбылася ў V ст. да н.э., выкліча жывую цікавасьць у сёньняшніх студэнтаў. «Большасьць зь іх — дзеці фэрмэраў і рабочай галоты, ня надта падрыхтаваныя да навучаньня ў каледжах. Мала хто зь іх ведае Клеона — афінскага дэмагога, затое ўсе ведаюць Клеона як пэрсанажа «Зорных войнаў»...

Пацьвярджаю: пару гадоў таму я працаваў у падобным унівэрсытэце, праслаўленым вынаходствам бэтонамяшалкі ды штучнага апладненьня кароваў, і прыгадваю мёртвую цішу, якая шторазу западала ў аўдыторыі, калі трэ было адказаць, хто такі Гоголь, ці Гётэ, ці Фаўст, ці, бадай, што такое барока. Студэнты пісалі мне на іспыце, што сёньняшняя Ўкраіна мяжуе на захадзе з Аўстра-Вугоршчынай, на поўдні — зь Літвой, а на поўначы — зь Югаславіяй. Імёны «Леанід Краўчук» і «Леанід Кучма» яны ідэнтыфікавалі як «украінскія гетманы XVI ст.» або, яшчэ лепш, «украінскія дысыдэнты з пакаленьня шасьцідзясятнікаў, якія змагаліся проці русіфікацыі й былі высланыя ў ГУЛАГ». І я ня мог паставіць ім двойку, бо ж яны нешта чулі пра Літву, Югаславію і нават Аўстра-Вугоршчыну. Больш таго — пра гетманаў, дысыдэнтаў-шасьцідзясятнікаў, русіфікацыю й ГУЛАГ!...

Прачытаўшы неяк у «New York Times» рэпартаж іхнага маскоўскага карэспандэнта (прафэсійнага русіста, выпускніка прэстыжнага ўнівэрсытэту), які некалькі разоў у тэксьце згад-



ваў п'есу Гогаля «На дне» (sic!), я ня вытрымаў і падзяліўся шматмесячнымі ўражаньнямі з калегам-палітолягам, які здаваўся мне калі не зусім цынічным, дык прынамсі дастаткова скептычным наконт American Way of Life. Я, падобна, недаацаніў ягонага амэрыканскага патрыятызму або, наадварот, пэўнага цынізму. «Окей, — сказаў ён велікадушна, — можа, ты й маеш рацыю. Але калі вы там, ва Ўсходняй Эўропе, усе такія разумныя, дык чаму вы такія бедныя?»

Я шмат чаго мог бы яму сказаць, але паколькі сам не люблю надрыўных нацыянальных плаканьняў з нагоды «неспрыяльных гістарычных абставінаў», «падступных суседзяў» ды «бяздарнага кіраўніцтва», якое ўвесь час «не туды» паказвае булавой і ніяк ня можа між сабой «дамовіцца» ды «аб'яднацца», — я пракаўтнуў падкінутую горкую пігулку, не разжоўваючы.

Праз два гады прафэсар Гансан нечакана адказаў сваім артыкулам на пытаньне, якое мучыць, мабыць, не аднаго мяне і якое вось ужо два стагодзьдзі штурхае шмат каго з украінцаў да прастадушных аргумэнтаў кшталту: «а затое ў нас духоўнасьць вышэйшая», або: «а затое ў нас песьні найлепшыя». Прафэсар Гансан нагадаў, як яны вывучалі Фукідыда ў прэстыжным Стэнфардзе, ужываючы вытанчаныя мэтады структурнага, псыхалягічнага, лінгвістычнага ды іншага аналізу, і заўважыў, што падыход ягоных студэнтаў у правінцыйным Фрэсна да Фукідыда падабаецца яму нашмат больш.

«Оў, ес, — захоплена пераказваў ён рэпліку аднаго з студэнтаў, — можа, ён і прыплёў нешта. А што ж вы хацелі? Фукідыда з рэпартэрскім магнітафонам?» — «Магу паспрачацца, — цытуе ён іншага студэнта, размалёванага з ног да галавы татуяваньнямі ды шнарамі, — гэты чувак, мусіць, не аднаго ўласнымі рукамі кокнуў, раз так клёва ўсё апісвае» (гаворка пра Фукідыдава апісаньне пагрому, учыненага афінянамі ў Дэльфах).

«Калі мы хочам зьберагчы жывымі ідэі старажытнай Грэцыі, — патэтычна абвяшчае далей прафэсар Гансан, — мы мусім ажывіць элінiстычны дух. Гэты дух — можа, ужо страчаны ў прэстыжных унівэрсытэтах — жыве, выяўляецца сярод студэнтаў, якія ўдзень працуюць у «Макдональдзах», а ўвечары наведваюць лекцыі, і якія, захопленыя крывёю й целам Фукідыдавай прозы, пачынаюць па-сапраўднаму цаніць ягоную магутную думку. Яны прымаюць яго як свайго крутога чувака, які паказвае, што іх звычайны паўсядзённы жыцьцёвы досвед — гэты досвед унівэрсальны, падпарадкаваны вечным абстрактным формулам... Ён паказвае студэнтам розных расаў і клясаў, што мы ўсе нашмат больш падобныя адзін да аднаго, чым нам здаецца. І прапануе ўсім нам мудры погляд на сёньняшні дзень, робячы перажываньне навакольнага жыцьця менш балесным.».

Гансан аказаўся больш рамантычным, чым Фукідыд: ён трохі прасталінейна процістаўляе свой правінцыйны каледж прэстыжным унівэрсытэтам, сваіх праставатых студэнтаў-вячэрнікаў — высакалобым інтэлектуалам, забываючы, што Амэрыка моцная якраз тым, што ў ёй ёсьць усё, у прыватнасьці, унівэрсытэты для вундэркіндаў, дзе навучаньне каштуе 20—30 тысячаў у год (але незаможных вундэркіндаў туды бяруць бясплатна, яшчэ й стыпэндыю даюць), і сьціплыя ўнівэрсытэты, дзе год навучаньня каштуе ня больш дзьвюх тысячаў. Аднак ён між словам сказаў самае сутнаснае: краіна моцная менавіта сваёй разнастайнасьцю — кожны можа знайсьці сабе свой унівэрсытэт, свайго Фукідыда і сваё, як казаў наш мудры Скаварада, «сроднае заняцьце». Сацыяльная дынаміка дзіўным чынам суіснуе тут з інстытуцыйнай гіерархічнасьцю, тым часам як мы ніяк ня можам іх зьяднаць. Някепскія заводзкія брыгадзіры робіцца ў нас прэзыдэнтамі, старшыні калгасаў — прэм'ер-міністрамі, а дабрадушныя начальнікі жэкаў — кіраўнікамі творчых саюзаў, дыпляматычных службаў і разнастайных парлямэнцкіх камісіяў.

Як кажа прыказка — разумныя галовы, толькі дурням дасталіся. Вось жа, адкладаючы «Herald Tribune» з прафэсарам Гансанам, я сам сабе сказаў прыблізна тое самае, што й мільёны маіх суайчыньнікаў у тую самую хвіліну, гледзячы чарговую порцыю тэленавінаў: «А ўсё-ткі песьні ў нас найлепшыя!» ■



**Мікола Рабчук** — лідэр кіеўскага інтэлектуальнага кола, стваральнік месячніка «Крытыка», часопіса «Дух і Літара», а таксама аддзелу культуры самай салідная украінскай газэты «Дзень», зь якой мы й перадрукоўваем гэтае эсэ.

Алесь АРКУШ

# ПРЫЗНАНАЯ БЕЗ ЧАРГІ

***Развагі пасьля прачытаньня паэтычнага зборніка Надзеі Салодкай «Восень, ціха сыходзіць...»***

У Беларусі часам пачуеш, што задужа багата ў краіне паэтаў. Пішуць і пішуць. Бяз продыху. Усе рэдакцыі заваленыя стосамі вершаванай прадукцыі. І нават цяжкі эканамічны крызіс апошніх гадоў не суняў паэтычнага сьвербу беларусаў. Адны тлумачаць гэтую зьяву як доказ песеннасьці нацыі. Другія — як прагу падсьвядомага супраціву зьнішчэньню беларушчыны: маўляў, душа баліць і знаходзіць адхланьне ў творчасьці.

Але я ня веру ні першаму, ні другому. Бо ведаю, зь якой упартасьцю, а часам і нахабнасьцю, патрабуе большасьць беларускіх вершапісцаў прызнаньня. Беларусы маюць вялікі комплекс непаўнавартасьці. Яны як бы абдзеленыя людзі. Усё ў іх ня так. Кожны гэта падсьвядома адчувае і імкнецца пазбавіцца прыкрага комплексу — абы толькі неяк набыць значнасьць у вачох іншых. Прачнуцца аднойчы знакамітым, шчасьлівым, заможным, паважаным. Адзін са шляхоў — стаць другім Петрусём Броўкам. І вуліцу назавуць у твой гонар, і музэй адкрыюць на радзіме. За такое шчасьце варта памагацца. Або паспрабаваць купіць за кумпячок ад уласнага кабанчыка ці мядком падмазаць.

Рэдакцыі ўсіх дзяржаўных літвыданьняў дзень і ноч знаходзяцца ў аблозе. Бярэмы вершаў гадамі пыляцца ў вечнацяжарных тэчках аддзелаў паэзіі. Пры гэтым большасьць «штурмавікоў» сталічных рэдакцыяў не прызнае рэгіянальных выдавецкіх ініцыятываў. Вядома, яны марацць аб усяленскіх маштабах (ці можна дамагчыся славы, адціснуўшы саматужную брашуру дзесьці ў Бешанковічах?).

Полацкая паэтка Надзея Салодкая за сваё жыцьцё, а ёй ужо за пяцьдзясят, толькі некалькі разоў друкавалася ў сталіцы. Таму ў цэнтральным друку сёньня можна прачытаць пра яе «маладосьць» (а ўзгадваць паэтку пачалі з тае прычыны, што кампазытары, найперш Леанід Захлеўны, цяпер актыўна пішуць песьні на яе вершы). Гэта жанчына цяжкога, пакручастага лёсу. Працавала машыністкай у полацкай гарадзкой газэце. Па інваліднасьці выйшла на пэнсію. Менавіта яна дапамагала ўзьнімацца на крыло полацкім пісьменьнікам прызыву 80-90-х гадоў. Бо практычна ўсе кнігі прыдзьвінскага пэрыяду Ўладзімера Арлова, Лявона Баршчэўскага, Сержука Сокалава-Воюша, Якуба Лапаткі і іншых прайшлі праз сп. Надзею. Хто карыстаўся яе паслугамі, заўжды адзначаў для сябе высокую кваліфікацыю сп. Надзеі (ведаю, прывозілі да яе рукапісы і зь Менску). Н.Салодкая ня толькі дакладна передрукоўвала самыя нечытэльныя крамзолі (плады начнога натхненьня), але й часта рэдагавала тэксты. Але ніхто ня ведаў, што Надзея Стэфанаўна неўзабаве сама пачне пісаць.

Некалькі гадоў таму нечакана зьявіліся першыя вершы Н.Салодкай (гэтак жа нечакана, напрыканцы 80-х, зьявіліся вершы ў наваполацкім «Хіміку» Валянціны Аксак). Дзяржлітвыданьні паставілі «маладую паэтку» ў агульную чаргу. Мэханізм нараджэньня творцы быў запушчаны. Вось толькі сама паэтка не згадзілася чакаць 2-3 гады да першай публікацыі ў часопісе (дарэчы, публікацыі гэтай яшчэ не было). Летась яна прадала сваё лецішча, набыла кампутар і пачала самастойна рыхтаваць свае (і іншых палачанаў) паэтычныя зборнікі. Цяпер зноў вакол спадарыні Надзеі віруе полацкае культурніцкае жыцьцё. Тут рыхтуецца да друку часопіс «Калосьсе».

*Зноў мяцелі гуляюць белыя*
*Па пагорках, вірах і снах.*
*Ціха стогне душа збалелая*
*Ў зашарэлую стынь вакна.*
*Перашэпты сьнягоў і поцемкаў*
*Упаўзаюць у цёплы дом,*
*Па прыступках тупочуць боцікі*
*Развітальнай чужой хадой.*
*Заручальны пярсьцёнак —*
*каменем...*
*З анямелай рукі зьніму*
*І ўлагоджу дарункам-памяцьцю*
*Вейна-ятраную зіму.*

Вершы Салодкай мне нагадваюць творчасьць Янішчыц. Што ня дзіўна — бо і Салодкая, і Янішчыц — паэткі блізкіх гадоў нараджэньня, узрошчаныя ў адзін час. Гэтая паэзія сёньня перажывае эстэтычную крызу. Аб чым прызнаецца і сама Салодкая: «Мне хапае пракорму, бульбянога, цукровага... Зьмест ня мірыцца з формай, ні старою, ні новаю». Яна разумее, што ўчорашні дамінантны паэтычны стыль у айчыннай літаратуры відавочна састарэў. Прыняць новы паэтка ня можа, ня той узрост. Вось у чым праблема.

Літаратура ня можа існаваць толькі ў адным манапольным кантэксьце. Ёсьць рэгіянальныя, ёсьць розныя эстэтычныя... Трэба імкнуцца іх стварацьr. І тады агульнанацыянальны будзе шматкроць багацейшы. Вядома, Полацак — вялікі культурніцкі цэнтар, і яму лягчэй. Але чаму нельга будаваць нешта падобнае ў Магілёве, Баранавічах?.. ■

# «КУПАЛЬЛЕ» — РАЗЬВІТАНЬНЕ З «БАСОВІШЧАМ»

***Рок-фэстываль «Басовішча» 17—18 ліпеня ў Гарадку, што пад Беластокам, адзначыў уласнае дзесяцігодзьдзе***



Кася Камоцкая і Віктар Шалкевіч. Фота Аляксея Янукевіча

Севярын КВЯТКОЎСКІ

Слоган «Басовішча» — «Фэстываль музыкі маладой Беларусі». Створаны ў 1990 годзе Беларускім Аб'яднаньнем Студэнтаў (БАС), фэстываль сьпярша быў адзінай магчымасьцю для беларусаў «адвязацца» ў нармальнай атмасфэры: безь «мянтоў», «гэбэшнікаў» і іншых партыйных назіральнікаў. Фэстываль не ў Беларусі, але сярод беларусаў — «я тэж естэм білорусінэм, ходжу до цэрквы».

Пасьля прыйшлі гады жыцьця пад бел-чырвона-белым сьцягам, калі гурты «маладой Беларусі» атрымалі магчымасьць выступаць на пляцы Незалежнасьці і нават у Опэрным тэатры. Менавіта ў гэты пэрыяд «маладыя беларускія каманды» «Ulis», «Мроя», «Крама», «Новае Неба» і іншыя паступова сталі ператварацца ў «рок-аўтарытэты». А на «Басовішчы» ўсё часьцей пачалі зьяўляцца польскія каманды... На закрыцьці «Басовішча'99» сярод гасьцёў-«дыназаўраў» граў толькі адзін польскі гурт «Kult». Але ён ладзіў ганаровы апошні выступ, і на аплату «Kultu» страцілі трэць бюджэту фэстывалю.

КАСЯ КАМОЦКАЯ:

— Я туды паехала таму, што мяне вельмі папрасілі сябры, і таму, што гэта было дзясятае «Басовішча». Я лічу, што нашым гуртам там няма чаго рабіць. Для мяне не прымальна атрымліваць ганарар у дзесяць разоў меншы, чым польскі гурт. Фэстываль перастаў рэпрэзэнтаваць музыку «маладой Беларусі». Проста ён згубіў сэнс як фэстываль, пабудаваны на пошуках новага, накіраваны на творчасьць маладых гуртоў.

Рэцэнзія на фэстываль у беластоцкім выпуску «Gazety Wyborczej» мела назву «Мроя» пабіла «Kult». Аўтар Цэзары Поляк пісаў аб расчараваньні ў выступе «культавага» польскага гурта і аб тым, што «калі б у «NRM» уклаcьці грошы, гурт зрабіўся б найлепшым па-над Віслай». Што да першага конкурснага дня, аўтар рэцэнзіі назваў узровень выканаўцаў нізкім. Калі «якасьць выканаўцаў ня вырасла над узроўнем гімназічных гуртоў, якія граюць час ад часу пасьля заняткаў». Сапраўды, любы фэстываль для нашых «маладзёнаў» — гэта найперш магчымасьць хаця б раз на год «парэпэтаваць на нармалёвай апаратуры». А яшчэ, сёньня яны адкрываюць для сябе ўражаньні, якія цяперашнія «дыназаўры» перажываюць як настальгічныя: выступ у нармальнай атмасфэры.

Першыя тры прэміі конкурсу атрымалі ад БАСа — «Exist» (Менск), ад войта гміны Гарадок — «Зьніч» (Менск), ад старшыні Беларускага саюзу ў Польшчы — «Deviation» (Горадня) і «Алесюкі» (Гайнаўка). Што да гасьцёў-«аўтарытэтаў» з «Палаца», «Крамы», «Новага Неба», «Ulisa» і «NRM», дык музыканты прыехалі адпачыць на ўікэндзе, сустрэцца з старымі сябрамі, зрабіць сабе і людзям добры настрой... Казаць пра якуюкольвек канкурэнтнасьць паміж музыкантамі розных стыляў і аднаго кляcу выкананьня па дзесяці гадох існаваньня фэстывалю ўжо не даводзіцца.

Арганізацыя і атмасфэра, якая панавала на «Басовішчы'99», сапраўды была выдатная, «душэўная». Але многія музыканты адзначалі, што музычнае «Купальле'99», якое за тыдзень перад тым адбылося ў беластоцкай Нарве, спадабалася больш. Можа так здарылася таму, што «арганізатары «Басовішча» не арыентуюцца ў музычнай сытуацыі ў Беларусі» («Gazeta Wyborcza»)? У любым выпадку, выглядае, што ў гэтым годзе паўстала альтэрнатыва «Басовішчу». Сёлета на «Купальлі», арганізаваным Зьвязам Беларускай Моладзі (ЗБМ) выступілі «Крыві», «Ulis», «Новае Неба» і «NRM». Ніхто зь беларусаў асабліва не імкнуўся разабрацца ў супярэчнасьцях і інтрыгах, якія прывялі да расколу БАСа і зьяўленьня ЗМБ. Галоўны арыенцір — гэта стаўленьне да музыкантаў зь Беларусі.

КАСЯ КАМОЦКАЯ:

— Сытуацыя зь існаваньнем дзьвюх традыцыйных рок-імпрэзаў на Беласточчыне мае сэнс. Няхай «Купальле» будзе проста файным сьвятам, а «Басовішча» застанецца як конкурс для маладых беларускіх выканаўцаў, куды запрашаюцца польскія зоркі. Гэтаксама як беларускія шоу-арганізатары гатовыя заплаціць любыя грошы, абы пабач зь беларусамі паставіць якую-кольвек другарадную расейскую зорку. Гэта правінцыйны комплекс беларусаў. Але Беласточчына — гэта двайная правінцыя, як польская, так і беларуская. У мяне там шмат сяброў, я вельмі люблю туды прыяжджаць. Але цікавей выступаць у Менску. ■

# НАША НІВА 90 ГАДОЎ ТАМУ



*23 ліпеня 1909 году*

**Астрамэчава**, Брэсцк. пав. Гродз. губ. 5 юля нашы сяляне разьбіралі справу, каб адкрыць крэдытнае таварыства. Сабралося 35 чалавек; прачыталі статут (устав) і кніжку аб тым, як кіравацца ў гэтай справе; з кніжкі даведаліся, што каб добра ішла справа, трэба каб што найбольш прыносілі туды грошы і клалі іх на працэнты; але цяперашнімі часамі гэтага німа што спадзявацца: каля нас сяляне на перабой купляюць зямлю, і ў каго дзе вынюхаюць які грош, бяруць хоць на 25 працэнтаў; але пазычаюць пад вэксаль. Дык хто ж панясе ў касу на 6 1/4 працэнтаў?

Каб ня даць загінуць гэтай вельмі важнай справе, — заправілы таварыства перш думаюць расстарацца грошы з казны. Лічаць яны так: гасударственнае казначэйства пазычае тысячу рубл. на 6 прац.; апроч таго павятовае дае ім крэдыт так сама на 1000 рубл. па 6 1/2 працэнтаў, — значыцца, працэнтаў у год за дзьве тысячы руб. трэба будзе плаціць 125 рубл., а калі таварыства будзе браць па 12 прац., то дастане 240 руб., і заработку астанецца 115 р.; але будзем лічыць 100 р., бо можа ня ўсе грошы будуць у абароце. З гэтай сотні рубл. па ўставе таварыства 40 руб. ідзе ў запасны капітал, 40 руб. у аснаўны і 20 руб. на канторшчыка і народную прасьвету. Доўг — 1000 руб. гасударств. банку трэба вярнуць праз 13 год, а да таго часу ў запасным і асноўным капіталах, лічучы па 40 руб. у год, набярэцца ўжо па 520 руб., разам 1040 р. Вось і будзе чым сплаціць доўг, ды яшчэ 40 руб. астанецца.

Nemo

## прыватныя абвесткі

Куплю кнігу І.Юхо «Крыніцы беларуска-літоўскага права» 1991 г.в. Тэл.: 262-67-02, Валянцін Іванавіч

Куплю старыя карты Менску, Магілёву. 220030, Менск-30, а/с 100

Зося, патэлефануй Віталю: 262-81-06

Набуду збор твораў Ул.Караткевіча ў 8 т. Тэл.: 239-01-67

Патрэбныя грошы для паездкі на навуковую канфэрэнцыю. Тэл. у Гомлі: (0232) 57-87-37. Мікола

Пазнаёмлюся з прыгожай паненкай, сьвядомай беларускай для ўтварэньня сям'і. Мужчына 38/175, а/в, без ш/з. А/с 131, Менск, 220012

Хлопец (25/190) пазнаёміцца зь дзяўчынай да 25 гадоў. 220053, Менск-53, а/с 268

Куплю тамы этымалягічнага слоўніка беларускай мовы і слоўнік Насовіча. Заплачу добрыя грошы. Тэл.: 284-47-49

Беларуская Эвангельская Царква запрашае ўсіх ахвочых на набажэнствы штонядзелю а 17-й гадзіне. Менск, Любімава 21-56. Тэл.: 270-89-87

**Мы друкуем таксама абвесткі большым шрыфтам за невялікую плату:**
*— да 20 словаў — 40 000 руб., звыш 20 словаў — 60 000 руб.;*
*— па-мастацку аформленая аб'ява (мінімальны памер рэклямнага модулю 18 кв. см) — 180 000 руб.;*
*— па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад 25 000 руб. за 1 кв. см.*
*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку бланку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытальна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ». *Рэдакцыя*

Куплю слоўнікі Станкевіча і Насовіча, беларускую Біблію. Тэл.: 2264-263, 2708-987

Юрась! У выніку болю нашага пачуцьця — гала-пацалунак і гастрыня жыцьцёвых жаданьняў?! XXL

«Плавільшчыкі расы» — шэдэўр на ўсе часы! Славамір! Віншую з посьпехам у полігенэзіі! Кума Ганна

Адхілі ад сябе хлусьлівасьць вуснаў і хітрасьць языка аддалі ад сябе. Прытчы Саламонавы

Прапануем в/а працу ў хаце (250 у.а.). Даступна ўсім. Укладзіце 2 кап. са зв/а: 220089, Менск, а/с 122

Спачатку ўзьнік чалавек, і ўжо затым стварыў ён дзяржаву. Таму дзяржавы над чалавекам не бывае: дэмакратычная — яго слуга, таталітарная — яго вораг. Вячаслаў Мілкоўскі

Так, як тыран перашкаджае свабоднаму, апошні замінае тырану. Вось з-за чаго спрадвечная барацьба. Вячаслаў Мілкоўскі

Жыцьцё ў РБ — гэта суцэльны змрок без надзеі на тое, што неўзабаве выгляне сонца. Зрабі сабе падарунак — імгненьне пажыві ў сваёй краіне — замоў газэту «Радавая Беларусь». А/с 169, 220030, Менск

**Весьнік Беларускае Ультра-Правіцы «СЛОВА НАЦЫ». Ад вас — чыстая капэрта. 220086, Менск, а/с 121**

Выйшаў № 1 газэты маладых літаратараў — «Наша ніва ісьцінная». Выданьне несур'ёзнае, з постмадэрновым смакам. Пакаштуйце гэты фрукт — дашлеце капэрту з маркаю й купон б/а: а/с 169, 220030, Менск

Літаратурна-спэцыфічная газэта «Наша ніва ісьцінная» запрашае да супрацоўніцтва маладых таленавітых паэтаў і празаікаў з пачуцьцём гумару. А/с 169, 220030, Менск ■

## паштовая скрынка

**Зьмітру Ю. з Фаніпалю.** *На адну старонку «НН» улазіць да 5—7 машынапісных старонак тэксту, а Ваша апавяданьне — на 10 старонак. Мы звычайна не друкуем прасьцінаў тэксту на 2 старонкі ці твораў з працягам. Вы, здаецца, пастараліся ўставіць у апавяданьне ўсё, што толькі мелі ў галаве. Выйшла салянка, у якой ідэяў хопіць на 3 апавяданьні. Не ганіцеся, не апошні раз пішаце!*

**Вікторыі Г. зь Менску.** *Хто такі Тодар Беларускі, у рэдакцыі ніхто ня ведае. Мо хто з чытачоў падкажа? Газэты «Бацькаўшчына» няма. Хутка, мабыць, і «Голасу Радзімы» ня стане.*

**Тацяне Х. з Полацку.** *Кніжкі можна замовіць праз наваполацкую філію Маладога Фронту (тэл.: 5-27-02) або празь менскую «Кнігі — поштай» (а/с 5, Менск, 220085 ці праз тэл.: 017-249-08-88).*

**Кастусю Т. зь Менску.** *Гэта і не афарызмы, і ня вершы ў прозе, і не эсэі. Чысьціня жанру — гэта чысьціня роду.*

**Вользе Ф. зь Нямеччыны.** *Чакайце ліст.* ■



НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______

Імя і прозьвішча ______

Адрас, тэлефон ______

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Гальяш Патаповіч. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.
Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2830. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18[05], 25.07.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N3738
Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12